
У Канюках →4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Спас у Саках →9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 35 (3303) Год LXIV | Беласток, 1 верасня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)





# «Тут кожны моцна адчувае адказнасць за наш храм»

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

**Да 1947 года тут адпявалі памерлых. Евангелічная капліца па вуліцы Садовай у Эльблангу зараз стала прытулкам для праваслаўных вернікаў, якіх прымусова тут перасялілі ў рамках Акцыі «Вісла». Для перасяленцаў царква была таксама сімвалам іх ідэнтычнасці, таму ад пачатку новага жыцця на чужых землях пачалі арганізаваць прыход. Ужо дванаццаць гадоў настаяцелем Свята-Марыі-Магдалінінскага прыхода ў Эльблангу з'яўляецца айцец Марк Антановіч.**

**— Адной з цікавінак, якую выкідае інтэрнэт, з'яўляецца інфармацыя, што Ваш прыход дзейнічае па новым стылі. Гэта праўда?**

— Быў такі час, але Сабор епіскапаў вырашыў «выпрастаць» гэту сітуацыю. Зараз, так як ва ўсёй Польшчы, мы трымаемся юліянскага календара. Я тут на двух прыходах — у Эльблангу і Паслэнку, таму службы ў Эльблангу адбываюцца толькі ў першую і трэцюю нядзелю месяца, а ў другую і чацвёртую ў Паслэнку. Ужо даўным-даўно так было прынята і так засталося.

**— Большасць вернікаў абодвух прыходаў гэта нашчадкі людзей пераселеных сюды ў рамках Акцыі «Вісла»?**

— Так, гэта перш за ўсё яны.

**— Яны трымаюцца праваслаўя? У вас таксама грэка-каталіцкая царква. Газета «Dziennik Elbląski» пісала, што ўкраінцы, якія цяпер прыязджаюць сюды за працай, запаўняюць цэрквы на Памор'і. Ці так?**

— Тыя, якія прыязджаюць за працай, працуюць, і гэта для іх самае важнае. У храм амаль не прыходзяць. Здараецца, што заходзяць на большыя святы, але рэдка. У Паслэнку ёсць і група беларусаў, якая прыехала за працай, але яны, калі ўжо прыходзяць, то на Пасху.

**— Беларусаў таксама сюды перасялялі пасля вайны.**

— Так, былі і беларусы. Частка ўжо выехала, іншыя ўжо памерлі. Яшчэ жыве частка тых людзей, якія пасля вайны намагаліся, каб адкрыць царкву ў Эльбангу. Сярод іх былі беларусы.

**— Гданьскі прыход — самы стары. Прыходы ў Эльблангу, Паслэнку, Арнэце і Браневе ўзніклі пасля вайны?**

— Так, усе. Калісьці найбольшым быў прыход у Арнэце. Сёння ён самы маленькі. Спачатку былі прыходы ў Ольштыне і Аструдзе. Сюды прыязджаў свяшчэннік з Ольштына і адпраўляў літургію ў прыватных дамах. Пазней людзі пачалі хадайнічаць ва ўлад аб памяшканне пад царкву. Спачатку не было волі, каб даць будынак праваслаўным. Пазней улады запрапанавалі пад царкву вялікі касцёл, які стаяў у цэнтры горада. Там амаль цэлы дах заваліўся. Апрача таго прыхаджане пабаяліся браць такі вялікі будынак, паколькі іх тут не было аж так шмат. Знайшлі вось гэтую царкоўку. Першапачаткова была яна пратэстанцкай могільнікавай капліцай. Тут таксама іхнія могілкі. Вядома, трэба было спачатку зрабіць рамонт, а не так даўно быў дабудаваны прытвор (сені), яшчэ пры айцу Астапчуку.



**— Амаль не засталося следу па пратэстанцкіх могілках.**

— Пасля вайны былі яны амаль дашчэнту знішчаны. Надмагіллі, якія ўдалося захаваць, знаходзяцца ў лапідарыі, які паўстаў у 2008 годзе. Там яшчэ можна знайсці, між іншым, надмагілле дзядоў Ангелы Меркель.

**— А праваслаўныя могілкі паўсталі?**

— На гэтай тэрыторыі няма праваслаўных могілак, толькі камунальныя. Нават у Гданьску, а гэта стары прыход, таксама няма праваслаўных могілак.

**— А Вам самім якія найбольшыя складанасці здараюцца тут, на Памор'і?**

— Тут сапраўды цяжэй. Вернікі жывуць у розных мясцінах, хтосьці прыязджае, іншы зараз з'язджае... На Падляшшы ўсё па-іншаму, людзі неяк разам жывуць. У Эльблангу існуе вайсковая часць. Прыязджаюць сюды ваенныя, адслужаць тры гады і зараз едуць у іншае месца. Бывае так, што прыходзяць вернікі на кожную службу, а пазней раптам чалавек недзе прападае і яго ўжо не бачыш.

**— На Праабражэнне Гасподняе ездзіце часам на Грабарку?**

— На само свята на Падляшша я зараз не езджу, еду ў Бранева. У нас ёсць такая традыцыя. Тут інакш, чым на Падляшшы. Мы на святкаванні з'язджаемся з усіх бліжэйшых цэркваў. Нас проста мала. На дадзены момант у нас толькі чатырох свяшчэннікаў: я ў Эльблангу і Паслэнку, айцец Радыён у Арнэце, у Браневе айцец Віталій і ў Гданьску айцец Дарафей. Эльбланг гэта свайго роду цэнтр: у Гданьск адсюль 60 кіламетраў, у Паслэнк — 20, у Бранева — 40 і ў Арнэту — 50. Мы з сям'ёй на Грабарку ездзім на Свята Іверскай Божай Маці. Нашы прыхаджане паломнічаюць, некаторыя едуць у Саколку ці Беласток і ідуць з паломніцтвам на Святую Гару. Ёсць і такія, якія з Эльбланга на роварах паехалі на Грабарку. Мы, святары, таксама стараемся, наколькі ёсць такая патрэба, арганізаваць аўтобусныя экскурсіі на Гару крыжоў.

**— Скарачаецца колькасць прыхаджан? Колькі ў Вашым прыходзе вернікаў?**

— У Эльблангу маем 50 прыхаджан. Трэба памятаць, што калі б не было дзелавых людзей, не было б прыхода. Так як я ўжо сказаў, частка тых людзей яшчэ жыве. Зараз прыходзяць іхнія дзеці, хаця маладыя інакш ужо жывуць. Ну, жывуць як усе маладыя. Так, скарачаецца колькасць прыхаджан, але... думаю што Бог паможа і яны будуць.

**— Вы родам з Міхалова, дзе праваслаўе заўсёды было. Тут зусім па-іншаму. Цяжка было Вам знайсці сябе ў гэтым праваслаўі, сярод мясцовых людзей?**

— На Падляшшы людзі сваю царкву мелі і будуць мець. Тутэйшыя вернікі вельмі многа перажылі. Часта расказваюць, плачуць, што цэрквы ім палілі і здзекаваліся над людзьмі. Яны бачаць, як палілі іхнія іконы. На Падляшшы вернікі могуць сабе думаць: «Калі не я, то сусед неяк дапаможа прыходу», а тут кожны моцна адчувае адказнасць за наш храм, за прыход. Людзі стараюцца.





# Свет 0,97

Апошнім часам усё больш з сябрамі размаўляем на тэму бліжэйшай будучыні гэтага свету. Ён, гэты свет, у час імклівага тэхнагеннага працэсу так хутка мяняецца, што самая неверагодная яшчэ нейкіх 30-40 гадоў таму фантастыка ўжо стала альбо на нашых вачах робіцца паўсядзённай рэальнасцю. Машыны, электронныя механізмы, розныя робаты ўсё больш замяняюць чалавека ў розных сферах эканомікі, тэхнічных паслуг, адпачынку. Там, дзе было патрэбна 20 даярак, зараз дастаткова двух аператараў машыннага даення, якія падключаюць апараты. Там, дзе было патрэбна 20 касіраў супермаркета, хутка дастаткова будзе аднаго, які ўключыць машыны для разліку. Такія маркеты ўжо ёсць. Там, дзе было патрэбна 100 кіроўцаў, праз нейкіх 10 гадоў дастаткова будзе 2-3 дыспетчары, якія праз камп'ютарныя праграмы аўтаматычна запусцяць і будуць кантраляваць рэйсавыя аўтобусы і цягнікі. Што да гуманітарных і творчых прафесій, то літаратары, музыкі, акцёры, мастакі — ужо амаль лішні баласт. Непатрэбнымі будуць нават людзі такога старажытнага роду дзейнасці, як перакладчыкі. Два чалавекі падыдуць адзін да аднаго з мабільнымі прыладамі і будуць размаўляць паміж сабой на розных, хоць на дванццаці мовах. Журналісты таксама будуць непатрэбнымі. Ужо навіны пішуць бяздушныя машыны. Зрэшты, можна канстатаваць калі не смерць, то агонію сапраўднай журналістыкі. Нават жывы „сучасны" журналіст абавязаны быць бяздушнай істотай, яму забараняецца выяўляць эмоцыі, ён мусіць быць у пэўным сэнсе гэткім робатам-фіксатарам. І гэта ў лепшым разе. У горшым — ён павінен быць прапагандыстам-ашуканцам і стваральнікам фэйкаў.

Пакуль яшчэ на вяршыні застаюцца розныя менеджары і маркетолагі. Асноўнае іх заданне — найпрасцейшае альбо прыхаванае ашуканства спажыўцоў. Але гэта таксама не бясконцы працэс. Днямі ўглядзеў я на пачцы соку ліе змяшчальнасць — будучы пераканаым, што купляю 1 літр напою, купіў я насамрэч ёмістасць 0,97 літра. Раней выраблялі бутэлькі і пачкі літровыя, потым з'явіліся 0,90, потым 0,95 і вось — 0,97 літра! Гэта не проста прыхаванае ашуканства. Усе гэтыя 0,97, цэны 9,99 — разбурэнне цэласнасці свету. Бо літр — ужо не літр, кілаграм — не кілаграм і так далей. Ці вытрывае чалавечы мозг такую перазагрузку?!

Становіцца цікава, якія ж прафесіі застануцца патрэбнымі і незаменнымі? Падаецца, што ў аддаленай перспектыве ўвогуле ніякія, а самі прафесіі зазнаюць трансфармацыю ў бок універсалізацыі. Думаю, што крыху затрымаюцца на гэтым свеце лекары, кухары, цырульнікі. Хоць у медыцыне таксама ўсё мяняецца. Прыкладам, у ЗША ўжо навучыліся вырошчваць новыя зубы і прэстыжная спецыялізацыя стаматолага і дантыста будзе патрабаваць неўзабаве значна менш яе прадстаўнікоў. У працы ж кухара і цырульніка-візажыста, якіх таксама могуць замяніць машыны, усё ж застаюцца пэўныя элементы творчага ўдзелу, што патрэбны спажыўцам, каб смачней паесці ці прывабней выглядаць — а гэтыя жаданні праз час застаюцца нязменнымі. Магчыма, застануцца нейкія дробныя фермеры, бо людзі з-за невыноснай урбанізацыі, перанаселенасці гарадоў і патэнцыйнага голаду пачнуць перасяляцца на вольныя, некалі вясковыя, а цяпер апусцелыя землі.

Атрымліваецца, што ўжо бліжэйшым часам (гадоў праз 10 — максімум 20) большыня з насельнікаў Зямлі становіцца не толькі непатрэбнымі, але і „лішнімі" на гэтай планеце. І тая абсалютная меншасць, якая будзе на вяршыні камп'ютарных тэхналогій, цалкам будзе вырашаць лёс пераважнай колькасна бальшыні. Ці захоча яна карміць гэтую непатрэбную бальшыню?! Адказ ляжыць на паверхні і ён не на карысць бальшыні. А значыць, што чалавецтва чакае альбо знішчальная сусветная вайна, альбо маральная рэвалюцыя, альбо іх паслядоўнае спалучэнне. Пры першым варыянце, зважаючы на тэхналагічны ровень зброі, з 7-8 мільярдаў жыхароў застанецца невялікі адсотак людзей, якія пасля завяршэння катастрафічнай вайны павінны будуць нейк адраджаць і ўладкоўваць жыццё на планеце. Пры маральнай рэвалюцыі (яе імавернасць без вайны невялікая) адбудзецца светапоглядны перагляд каштоўнасцей і вяртанне да ранейшых вартасцей — ад сярэднявечных да лепшых набыткаў другой паловы ХХ стагоддзя.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Зараза

Рэчы адбываюцца ў Йемене на Аравійскім паўвостраве. У агульнай складанасці 24 мільёны чалавек маюць патрэбу ў неадкладнай дапамозе для больш за тры чвэрці насельніцтва краіны. Каб уявіць маштаб гэтай катастрафічнай сітуацыі, дастаткова ўсвядоміць, што з гэтай колькасці трацін на няшчасных загіне ад голаду, таму што няма тэхнічнай магчымасці забяспечыць іх ежай і пітной вадой, а ўдвая столькі ж — з-за хвароб. Толькі траціна тых, хто жыве ў нястачы, мае шанц выжыць да наступнага года. Аднак нават у гэтым выпадку іх сітуацыя моцна не зменіцца. У краіне вядзецца грамадзянская вайна, якая падсілкоўваецца альбо наўмысна падтрымліваецца меншымі і вялікімі палітычнымі гульцамі. Вялікай йеменскай трагедыі спрыяюць як вялікія дзяржавы, так і суседнія краіны, абодва мясцовыя кацыкі, надзвычай агрэсіўныя адзін да аднаго (пры падтрымцы замежных разведчыкаў, якія змагаюцца адзін супраць аднаго), а таксама дабрадзейная і поўная крывадушнасці дурнота міжнароднай грамадскай думкі. Так! Крывадушная дурнота.

Гэтая краіна мае доступ да Аравійскага мора і Адэнскага заліва з поўдня, і да Чырвонага мора з захаду. Таму яна знаходзіцца ў абсалютна стратэгічным пункце свету. Тут праходзяць некаторыя асноўныя нафтаправоды і шляхі транспарту металаў рэдкіх зямель, прадуктаў харчавання, тавараў народнага спажывання. На працягу дзесяцігоддзяў, але па ўважлівай прычыне, Йемен лічыўся адной з самых бедных краін свету. І правільна, таму што гадавы бюджэт гэтай 35-мільённай краіны быў крыху больш, чым бюджэт горада Беластока. Беднасць яго спараджала недаразвіццё дзяржавы. У гэтым і заключалася сутнасць канкрэтнага геапалітычнага кансенсусу паміж вялікімі дзяржавамі, у прыватнасці, паміж ЗША, Заходняй Еўропай і Расіяй. Паводле яго лепш было б, калі б Йемэн быў дзяржавай неэфектыўнай, застаючайся ў стабільнай беднасці, таму што тады тактычная гульня па кантролі над яго стратэгічным становішчам можа весціся за інтарэсамі йеменцаў і іншых другарадных гульцоў і толькі паміж самімі імперыямі. Аднак, калі больш палітычна патрабавальны Кітай далучыўся да гульні, кансенсус чорт узяў. У Йемене пачалася грамадзянская вайна, якая на самой справе з'яўляецца завуаляванай вайной паміж сусветнымі імперыямі. У выніку 24 мільёны чалавек паміраюць ад голаду і хвароб. Імперыі, значыць, урады, якія прадстаўляюць свае грамадствы, мала гэта хвалюе. Для іх дастаткова, што іх суайчыннікі даюць ім волю вырашаць жыццё і смерць мільёнаў людзей па ўсім свеце. Зразумела, у імя неадназначнага разуметага інтарэсу ўласнай нацыі. І сваё заплямленае сумленне заглушаюць згодай на рухі дапамогі, часта пад эгідай міжнародных арганізацый, на якія крывадушна ахвяруюць немалыя грошы. Таму дары сэрца цякуць у Йемен, як і раней у Сірыю, Судан. У кожным з гэтых выпадкаў галоўнай матывацыяй для дапамогі сусветных грамадстваў былі не чалавечыя пакуты, жахлівы голад ці клопат пра чалавечую годнасць, а страх... глабальнай чумы.

У Йемене да яе цяпер бліжэй. У яго перапоўненых і цалкам паралізаваных гарадах не вытрымлівае каналізацыя, у выніку чаго сцёкі выцякаюць на вуліцы. Чарговая праблема — смецце на вуліцах. Йемен, як дзяржава, знаходзіцца ў поўным развале. Адміністрацыя не працуе. Муніцыпальных службаў няма. Акрамя таго ў краіне адбыўся татальны крах спажывання, вытворчасці і гандлю, што выклікае маральны і духоўны спад у цэлым грамадстве. Няма чаго і каму купляць — кажуць эксперты. А гэта значыць, што нічога няма. Нават волі выжыць. Менавіта таму смецце на вуліцах такое небяспечнае. У трапічным клімаце гэта цікаючая эпідэміялагічная бомба з агнявой моцай, параўнальнай з чорнай воспай, якая на працягу стагоддзяў цікавала ў гразі гарадскіх клаак і шэрсці пацукоў. Адным словам, чума прачынаецца. Няважна, халера, тыф, воспа ці грып. У мінулым яе смяротныя пасевы перыядычна дэпапулявалі вялікія тэрыторыі населеных пунктаў, забіваючы больш за палову насельніцтва. Ці стане чума ў наш час менш атрутнай? Ці спыніць сучасная медыцына яе пандэмічную поступ? Аб зарaзе толькі гавораць. Насамрэч яе яшчэ няма. Ну, яе яшчэ няма... Толькі калі не ў Йемене, то ў іншай краіне, якая трапіла ў кола млына геапалітычных кірмашоў вялікіх дзяржаў, чума нарэшце выбухне. Ці гэта каго-небудзь чагосьці навучыць?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Трывалая памяць

Мае варшаўскія вандроўкі сцежкамі маладосці не завяршыліся толькі ў Музеі Варшаўскага паўстання, пра які пісаў я ў папярэднім фельетоне, але цягам усіх трох дзён наведаў яшчэ тры музеі. Другім музеем, да якога загадзя набыў квіткі, быў Полін — музей польскіх жыдоў. Уражвае ён усім — сваёй архітэктурнай будоўляй, прасторай, прадуманай нарацыяй, ну і, вядома, самімі экспанатамі. Важным фактарам, які трэба адзначыць, з'яўляецца факт, што музей узнік у выніку грамадска-дзяржаўнага фінансавання. Грошы на яго перадавалі жыды з усяго свету, а таксама вядомыя маркі і асобы польскага і сусветнага бізнесу. Усе ахвяравальнікі і спонсары віднеюць на ганаровых месцах. Адразу скажу, што мая вандроўка па музеі трывала тры з паловай гадзіны, але не паспеў я зайсці яшчэ ў кнігарню, бо спазніўся б у другое, дамоўленае месца. Ад сярэднявечча да сучаснасці знаёміўся з гісторыяй жыдоўскай прысутнасці на землях Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Перад вачыма ў сучаснай форме пераліваліся ўзнёслае і штодзённае жыццё выбранага народа. Ну і яго суіснаванне і змаганне са светам хрысціянскай цывілізацыі. Закрытасць грамадскасці і вельмі рэзкія, штодзённыя, рэлігійныя патрабаванні да сваіх вернікаў былі ўмовай забеспячэння перад прывабліваю рэлігійнай і нацыянальнай асіміляцыі. Аднак цягам стагоддзяў асіміляцыя стала неад'емнай часткай жыдоўскага лёсу на гэтых землях. Не менш важным фактарам у час спазнавання гэтага асяродка з'яўляецца магчымасць дакрануцца да многіх экспанатаў, ці прысесці, каб паглядзець ці паслухаць тое, што нас больш зацікавіць. Аграмадная плошча дазваляе без сціску вандраваць у выгадным кожнаму тэмпе, прытым не перашкаджаць адзін аднаму. Пры спазнаванні вельмі істотнай з'яўляецца цішыня, у якой турысты перасоўваюцца па музеі. Бацькі вельмі моцна пільнуюць сваіх разбэшчаных дзяцей, каб тыя не крычалі ці ганяліся па залах. Дарэчы, многа дыдактычных прылад у змозе прыцягнуць увагу звышактыўных маладзёнаў.

Мяне асабліва цікавілі экспазіцыі, якія апісвалі жыдоўскае быццё на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, Украіны ці Беласточчыны. Калі глянуць проста на карту былых сінагог, то адразу кідаецца іхняя насычанасць менавіта ў Вялікім Княстве Літоўскім, перш-наперш на беларускіх землях. Менавіта Гродна і Брэст былі тымі гарадамі, у якіх за часам князя Вітаўта пачалося тут жыдоўскае асадніцтва. У гісторыі, той крывавай, відаць, якой трагічнай памяццю ёсць паўстанне Багдана Хмяльніцкага і казацкія разні жыдоў на тэрыторыі сённяшняй Украіны ці паўднёвага Падляшша. Не абмінаецца і роля Беластока як важнага месца ў эканамічна-культурнай прысутнасці жыдоў у гэтай частцы Еўропы. Тут прыгадваецца справа пагромаў 1905 і 1906 гадоў, якія мелі месца ў нашым зараз ваяводскім горадзе. З кожным крокам, а нават з вялікімі дрыжыкамі, набліжаўся я да часоў жахлівага вынішчэння жыдоў немцамі ў час Другой сусветнай вайны. У неверагодна простай, эстэтычна строгай прасторы пайшоў расповед пра пекла на зямлі жыдоўскага народа. Штодзённасць жыдоўскага гета, канцэнтрацыйнага лагера ці паўстання так дзейнічае на прыток думак і ўяўленняў, што проста сам чалавек затрымліваецца і не зможа перайсці ўперад ад пабачанага і прачытанага. Прытым усё напісанае толькі на мове фактаў без аніякіх лішніх эмацыянальных дабавак. Эмоцыі самі авалодваюць чалавекам. І яшчэ раз не можаш паверыць, што «культурны нямецкі народ» быў у змозе ўвайсці на такі шлях бесчалавечнасці. Найгоршыя інстынкты відавочна дрэмлюць ва ўсіх народах. Пабыўка ў такім месцы гэта перасцярога перад усімі палітычнымі дэманамі, якія заклікаюць паніжаць чалавека, у тым ліку па нацыянальных ці рэлігійных прыкметах.

Для мяне вельмі пазнавальным аказалася гісторыя жыдоў у пасляваеннай Польшчы і іхняя самаарганізаванасць і палітычнае ўзаемазмаганне. Тут так як і перад вайной важным было стаўлянне да ізраільскай дзяржавы, ейнай палітыкі ці эміграцыі на гэтыя землі. З галавой поўнай пытанняў выходзіў я з музея. А навокал стаяла спелае, летняе надвор'е.

**Яўген ВАПА**



# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні (8)

...Нацыянальная Ідэя...
... — ... цісне пад сэрцам начамі трывога... —
каб не пахіцiў у нас ліхадзей
МІСІЮ ПЛЕМЕНІ — перад Богам...
МІСІЮ ПЛЕМЕНІ — між людзей...
...ймчыца ПАГОНЯ — і рыссю ... й галопам... —
ля сэрцаў кволых... па гонях чужых...
... ГОІЦЬ... — каб сэрца
Хрысціянскай Эўропы
білася роўна... й ня сцішыўся дых...
... кожнае племя — маці Зямельку —
ў Хрысце — мусіць абняць...
... Род шматгалосны —
грэшны ў сьцельку —
каяцца можа пачаць...
***ЗНІЧ, «...Раз-Моўі...»***

... Мая маленькая Радзіма –
куточак любы — Беларусь...
... а большая — у Трыадзінай... –
пад назваю — святая Русь...
... яшчэ шырэй — у Хрысціянскай
Эўропе — мае карані:
Ты абняла ўвесь свет паганскі
хаўрусам зброі...й дабрыні...
... у паўнаце — Зямля Хрыстова...
а вы — Земляне — Землякі –
мае браты — у час суровы,
што лучыць Вечнасць і вякі...
***ЗНІЧ «...Апошняму земляніну...»***

Пра новы подых і адкрыццё месца ўжо шчабяталі ластаўкі ля Успенскага сабора.

Будучы 2020 год — слаўны і знакавы для Жыровіч. Якраз выпадае 550-годдзе з'яўлення Іконы Жыровіцкай Божай Маці і 500-годдзе заснавання Жыровіцкага манастыра.

Юбілей мае прыцьміць усё, што раней бачылі і чулі ў Беларусі. Ды не толькі, калі ідзе пра рамонт і перабудову вуліцы, якія апярэджваюць візіт прэзідэнта. У Жыровічы збіраюцца надта важныя госці! Вось нядаўна народ электрызавала вестка пра візіт прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна і патрыярха Кірыла. Разам прыедзе і Аляксандр Лукашэнка са сваёй світай. Таму зараз ад рання да ночы рыхтуюцца пад прыезд паломнікаў. Галоўнае, каб паспець на час. Верагодна, усё яшчэ выспяваюць і множацца планы. У час маёй пабыўкі ніхто яшчэ не гаварыў пра святкаванні і гасцей. Рамонт пакуль ішоў ля старой крыніцы, тры кіламетры ад манастыра. На пытанне пра канчатковы праект работнік не ведаў што адказаць. Ён спачатку разгубіўся, а пасля на сцішанай ноце прамовіў: *«Ну што мы делаем? Красату делаем!»*.

* * *

Яшчэ ў першы дзень, у час аўтарскай сустрэчы ў бібліятэцы мяне спыталі:

— Што вы хацелі б пажадаць для Беларусі?

У параўнанні з Польшчай Беларусь сціплая дзяржава. Тут многа залежыць ад вынаходлівасці і энергіі паасобных людзей. Але ў цэлым відавочныя недахопы, заняпад і стомленасць. У саміх Жыровічах шмат пустых, пакінутых дамоў. Гістарычная мясціна, распаложаная сярод маляўнічых узгоркаў і даліны Шчары, месцамі нагадвае вымерлыя вёскі. Толькі ля манастыра адчуваецца нейкі зрух. Праўда, заходзіць у крамы не надта прыемна. Хутчэй за ўсё хочацца чым хутчэй прайсці побач гандлёвых установаў. Тут выстойваюць групы выпівох, якія назойліва просяць «на хлеб». Сярод жабракоў многа маладых мужчын, якія патрапілі ў алкагольную залежнасць. Яны з'яўляюцца ля магазінаў ужо ў пяць гадзін раніцы і топчуцца датуль, пакуль не закрыюць маркеты. Для паломніка, перанятага ідэяй міласэрнасці, цяжка адмовіцца ў дапамозе. Вось і нашу прыгожую тройцу, калі з Зояй і Валяй мы вярталіся ад святой крыніцы, перапыніла «галодная» кампанія з просьбай.

— Дайце капеечку на хлебушок! Паратуйце ў бядзе, мілыя!

Мае сяброўкі без аглядкі дабылі кашалькі і сунулі ў дрыжачыя рукі па рублі. Ды Валя, каб не астацца ў дурнях, свой жэст акрасіла дыдактычнай агаворкай:

— То ўжо ваша справа, на што гэты грош пойдзе!

Праўда, у суботу, калі ў пасёлак з'ехаліся паломнікі і турысты з Мінска, п'яненькая кампанія знікла. Месца таксама заззяла прыгожымі воблікамі людзей розных узростаў. Мясцовыя адразу падхапілі хвалю, больш ахвотна ўступалі ў размову, хвалілі свае тавары, прапанавалі паслугі. У гэтым віры адчуваўся згустак сардэчнасці, ветлівасці, дабрыні. Хоць была субота, на тэрыторыі манастыра і на вуліцы запанавала сталічная святочнасць. Беларусы ўсё часцей адкрываюць сваю бацькаўшчыну. Вось Валя, дырэктар вясковай школы, ад нядаўна пенсіянерка, марыць, каб з'ездзіць ва ўсе святыя месцы ў краіне. Была ўжо ў Полацку, у Тураве. Таму на пытанне ў бібліятэцы ў мяне быў адзін адказ:

— Каб беларусы знайшлі ў сябе залежы золата і падмацаваліся ў матэрыяльным сэнсе. Каб аднавілі такія пасёлкі як Жыровічы і жылі прыгожа і згодна са сваёй багатай духовай культурай.




Праўда, маё пажаданне прагучала як залатая казка. Нехта з публікі адразу пракаментаваў:

— Лепш каб не было таго золата, бо ж забяруць!

* * *

З перспектывы часу, я не магу толькі цешыцца, што наведала Жыровічы яшчэ да рамонтнай гарачкі і вялікай перабудовы мястэчка. Быў дараваны час на размовы, вандроўкі да крыніц, час на паэтычныя чытанні і назіранне палётаў ластавак, якія гняздуюцца пры святых будоўлях. Зрух успыхнуў прыблізна месяц, пасля майго ад'езду. Спачатку СМІ агучылі прыезд кіраўніцы прэзідэнцкай адміністрацыі Наталлі Качанавай.

Радыё Свабода, якое пабывала на месцы, інфармавала:

*Напярэдадні прыезду сталічнай чыноўніцы мы трапілі якраз на аўральную падрыхтоўку да візіту. З невялікага става ў цэнтры мястэчка камунальнікі вылоўлівалі ціну, іншыя фарбавалі лаўкі, паўсюль касілі траву, студэнты парадкавалі тэрыторыю аграрнага тэхнікума. Складалася ўражанне, што ідзе падрыхтоўка да «Дажынак».*

Візіт высокай чыноўніцы выспеў у канкрэтныя прапановы. На юбілейныя святкаванні дзяржава паабяцала канкрэтныя сродкі. Радыё Свабода, інфармавала пра планы:

*Да юбілею нарэшце скончаць даўгабуд трапезнай з гатэлем для паломнікаў — шмат гадоў на яго завяршэнне не маглі знайсці сродкаў. Аднаўляюць драўляны дом, дзе ў свой час жылі царкоўныя іерархі. У бліжэйшых планах — капітальны рамонт брацкага корпусу і званіцы. Для брацкага корпусу праект ужо ўхвалены і праходзіць экспертызу, для званіцы «праектныя пошукі» перад рэстаўрацыяй працягваюцца. Агулам у Жыровічах маюць прывесці да ладу блізу трох дзясяткаў аб'ектаў.*

У жніўні ўжо прыступілі да работы. Пра гэта піша газета «Народная Воля» ад 1 жніўня г.г.:

*Ужо цяпер у Жыровічах актыўна вядзецца рамонт вуліц, упарадкоўваецца тэрыторыя манастыра, фасады будынкаў. Сама Ікона Жыровіцкай Божай Маці з Успенскага сабора часова перанесена ў Нікольскі храм для пакланення. А Успенскі сабор зачынены. І толькі па выхадных днях ён адкрыты для службы. Паглядзець, як вядуцца рамонтныя работы, ужо прыязджалі ў Жыровічы кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь* ***Наталля Качанава*** *і намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь* ***Ігар Петрышэнка****. І ўсё гэта невыпадкова. Бо ў наступным годзе ў Жыровічы на юбілейныя мерапрыемствы прыедуць кіраўнік Беларусі* ***Аляксандр Лукашэнка*** *разам з прэзідэнтам Расіі* ***Уладзімірам Пуціным*** *і* ***патрыярхам Кірылам****.*

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Дэмаграфія Боцькаўскай гміны

Вясковая Боцькаўская гміна знаходзіцца ў паўднёвай частцы Падляшскага ваяводства і ўваходзіць у склад Бельскага павета. Займае яна 17% тэрыторыі павета. Мяжуе з Бельскай, Бранькай, Дзядковіцкай, Кляшчэлеўскай, Мілейчыцкай і Арлянскай гмінамі. Плошча яе складае 232 квадратныя кіламетры. Гэта тыпова сельскагаспадарчая гміна. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 73% плошчы гміны, лясы — 20%.

У Боцькаўскай гміне выступае незвычайная з'ява — 36 мясцовасцей падзелены на 38 салэцтваў. У іх пражывае 4570 чалавек. Шчыльнасць насельніцтва складае 20 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 95 жанчын. Прадстаўнікоў мужчынскага полу нашмат больш чымсьці дзяўчат і жанчын ва ўзроставых групах 10—14 гадоў ды 15—19 і 25—29. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын утрая больш чымсьці мужчын. Гміна абязлюджваецца. З 2016 года да 30 чэрвеня 2019 года лік насельніцтва скараціўся на 149 чалавек.

Найбольшыя вёскі ў гміне гэта Боцькі — налічваюць 1347 чалавек, Андрыянкі — 324, Якубоўскія — 244, Сельц — 199, Дубна — 160, Выганова — 158, Старое Сяло — 135, Скалімова — 131, Краснае Сяло — 125, Бадачкі — 123, Сяклюкі — 121, Альшэва — 120, Нурэц — 99, Верцень — 93, Войткі — 89, Сольнікі — 87, Бадакі — 86, Быстрае — 84 і Пятрова-Кшываколы — 80.

Ад 30 да 80 чалавек налічваюць вёскі Гаўрылкі — 74, Малочкі — 72, Пятрова-Траяны — 59, Снежкі — 56, Таруле — 50, Жалоцькі — 44, Калёнія-Боцькі — 42, Сасіны — 41, Пасека — 38, Шумкі — 37, Вандалін — 36, Дзяціннае — 34 і Шашылы — 32. Найменшыя населеныя пункты ў Боцькаўскай гміне гэта Вылян — 7 жыхароў, Вандалінэк і Храніборы — па 10 ды Сядлецы — 29.

З 2016 года значна паменшалі вёскі, між іншым, Андрыянкі — на 18 чалавек, Нурэц — на 14, Якубоўскія — на 13, Альшэва — на 12, Старое Сяло — на 9, Краснае Сяло — на 7, Снежкі — на 6 ды Малочкі і Секлюкі — па 5. Пабольшала жыхароў у Сольніках — на 16, Сельцы — на 7 і Гаўрылках — на 5.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Усё даражэе

Сёлета цяжкім будзе год для грамадства. У другім паўгоддзі цэны харчовых прадуктаў нечакана пачалі расці быццам грыбы пасля дажджу. Агародніна падаражэла нават больш за 250%. Аптовая цана капусты сягае 289% у параўнанні да мінулага года. Цыбуля цэніцца больш за 247%. Калі ў мінулым годзе за кілаграм бульбы плацілі 0,80 зл., то сёлета трэба плаціць 2,54-3,00 зл. Цана пшанічнай булачкі за 50 гр. павысілася на 5 грошаў, паўкілаграмовы бохан мяшанага хлеба — на 0,28 зл., кілаграм свінога мяса без косці — на 1,99 зл., кураціны на 0,37 зл. За курыныя „удка" апошнім часам у чаромхаўскім «Левіятане» плаціў я 6,19 зл., г.зн. амаль на 80% больш чым у мінулым годзе, а за кілаграм пятрушкі трэба ў Беластоку заплаціць 20 зл. Апрача харчовых прадуктаў падаражалі лякарствы, газ, электраэнэргія ды паліва. І, як інфармуюць СМІ, на гэтым не канчыцца. Прадбачваецца чарговае павышэнне цэн у чацвёртым квартале. А ўпраўляючыя маняць суверэна выбарчымі абяцанкамі. І якая тут можа быць верагоднасць для палітыкаў. Адзін зман і ашуканства. Час расплюшчыць вочы, даражэнькія, і паглядзець на шэрую штодзённасць і сказаць упраўляючым праўду.

**(ус)**



# НА СПАСА НА ГРАБАРЦЫ...

Раніцаю ў нядзелю 18 жніўня селі мы з жонкай у аўтамашыну і паехалі на Грабарку на літургію, якая пачалася ў 10 гадзін раніцы. Тады яшчэ на Грабарцы не было так многа людзей як пасля поўдня. Пасля літургіі на пропаведзі адзін з бацюшкаў гаварыў, што ў гэтым годзе на Грабарцы гасцюе бацюшка з Кеніі. Там адзін з праваслаўных святароў перавёў на праваслаўе 2,5 мільёна чарнаскурых жыхароў Афрыкі. Праваслаўныя негры вельмі веруючы народ. У кожную нядзелю падымаюцца ў 3 гадзіны раніцы, каб перайсці пехатой 30 кіламетраў да сваёй царквы. Тады ўсе вернікі прыхода прыступаюць да споведзі і Святога Прычашчэння. Іхняя дарога ў царкву вядзе праз джунглі, у якіх шмат небяспечнай жывёлы. Бывае, што кагосьці заб'е леў або тыгр і таму праваслаўныя афрыканцы мусяць быць падрыхтаваны да смерці і ў час літургіі прычашчаюцца. У Польшчы мы ў царкву едзем на аўтамашыне, маем што есці, у што апрануцца, маем лекараў, а ў Афрыцы бяда і голад цягнуць народ да Бога.



Пасля літургіі стаялі мы з сям'ёй у чарзе да іконы чатыры з паловай гадзіны. Паміж чаргою хадзілі валанцёры-братчыкі і раздавалі праваслаўныя кнігі. На Грабарцы заўсёды можна сустрэць многа знаёмых, якіх не бачылася многа гадоў. Я сустрэў сябру, з якім хадзілі мы на сходы праваслаўнага брацтва ў Беластоку. Прыемна было ўспамінаць даўнія гады. Многія, якія падаліся за працай у далёкія гарады Польшчы, з жонкамі і дзяцьмі прыехалі на Святую Гару Грабарку. Напрыклад, штогод на Спаса прыязджае на Грабарку родная сястра майго швагра, якая штодзень жыве ў Бельгіі. Колькі радасці дае ёй сустрэча з бацькамі і сямейнікамі!



Пазней пачалі ісці паломніцтвы. Колькі ж яны труду ў малітве даюць, каб пехатою прайсці шмат кіламетраў на Грабарку а да таго перайсці тры разы на каленях вакол царквы! Пад вечар на Грабарку з'явілася вельмі многа народу. Каля гадзіны 19-й выехалі мы дамоў.

### ... І Ў САКАХ

На само свята Спаса мы з жонкай і бацькам падаліся ў Сакі. Раніцаю ў Саках было асвячэнне вады, а пасля літургія. Там я сустрэў майго сябру па працы, які прадаваў свечкі. Ён мяне пазнаёміў з праваслаўным расафорам (першая ступень манаства) братам Мар'ё. Мар'ё — студэнт тэалогіі ў Грэцыі. У Польшчы прабывае два месяцы. Мар'ё родам з Бразіліі. Там няшмат праваслаўных, большасць жыхароў складаюць каталікі. Бацькі Мар'ё — пратэстанты. Калі маці даведалася, што Мар'ё не толькі ахрысціўся праваслаўным, але яшчэ хоча стаць манахам дык гэта вельмі пеpажыла. Расказаў мне Мар' ё, што ў Бразіліі, хаця гэта дэмакратычны край, вельмі многа бедных людзей. Брат Мар'ё вельмі ўдзячны манахам з манастыра ў Саках, якія яго вельмі добра і гасцінна прынялі. Бразілія нам асацыюецца з краінай, дзе святкуецца карнавал, а там ёсць і праваслаўныя!

У Саках сустрэў я таксама знаёмага дыякана Лукаша Барташука, збіральніка падляшскага фальклору і пасіяната падляшскай гаворкі. Гэта ён дзесяць гадоў назад пакінуў родны Беласток, каб жыць і служыць у Кляшчэлях. Ён вельмі любіць запісваць гутаркі са старэйшымі людзьмі і збіраць фальклор. Сустрэў я таксама айца Тамаша, які пару гадоў таму быў вікарыем у нашай парафіі ў Падбеллі. Зараз ён служыць бацюшкам ва Успенскай царкве ў Бельску-Падляшскім. У час літургіі вельмі многа людзей прыступіла да Святога Прычашчэння. Пасля быў хрэсны ход вакол царквы, а пропаведзь сказаў айцец мітрат Мікола Келбашэўскі — настаяцель Успенскай царквы ў Кляшчэлях.

У Саках Спаса ўрачыста святкуецца здаўна. Яшчэ ў 1990-я гады мы з бацькам ездзілі веласіпедамі на Спаса ў Сакі. Тады яшчэ не было там мужчынскага манастыра. Пасля літургіі быў арганізаваны пачастунак для вернікаў — смачны гарачы суп, булачка і кампот. Вельмі многа народу прыбыло на Спаса ў Сакі. Пераважна гэта жыхары навакольных вёсак Залешанаў, Тапароў, Сухавольцаў, Тафілаўцаў. Былі вернікі з Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Пра Сакі гавораць як пра «малую Грабарку», таму што царква стаіць на малой гары.

Тэкст і фота **Юркі БУЙНЮКА**

**Юрка БУЙНЮК**

# ТАГО ЯШЧЭ Ў КАНЮКАХ НЕ БЫЛО

У нядзелю 4 жніўня ў вёсцы Канюкі адбыўся беларускі фэст. Яго арганізаваў солтыс вёскі Канюкі і заадно вакаліст і лідар гурта «Славянская нота» Міраслаў, які выступіў першым. Спадар Міраслаў і Ала Каменская былі вядучымі фэсту. Пасля выступіў жаночы гурт «Czerwone Szpilki». Потым зайграў калектыў «Калінка» пад кіраўніцтвам Мар'юша Харужага. Вялікія воплескі атрымаў ансамбль «Багач», які спяваў беларускія і ўкраінскія песні. Выступіў таксама жаночы калектыў «Рэчанька» з Козлікаў з Любай Гаўрюк, якая ў час перапынкаў расказвала анекдоты.



фота Юркі БУЙНЮКА

Аднак найбольшай зоркай, якой усе чакалі, быў беластоцкі гурт «АС», які крыху спазніўся на фэст, таму што дзень раней выступаў на Цыганска-Славянскай бяседзе ў Полчыне-Здроі. Дарэчы, гэтую імпрэзу вечарам 3 жніўня транслявала TVP 3 Białystok. Усіх вельмі ветліва прывітаў лідар гурта «АС» Славамір Трафімюк, які родам з суседняй вёскі Давідовічы. Успомніў ён з сентыментам як у дзяцінстве на рэчцы ў Канюках лавіў рыбу. Сказаў таксама, што найлепш яму іграецца і спяваецца для нашых людзей з Падляшша там, дзе ён нарадзіўся і правёў сваё дзяцінства. Калі гурт «АС» зайграў дык сталі танцаваць усе, хто быў на фэсце. «АС» іграў пераважна беларускія песні розных гадоў: «Залатое калечка», «Ты ляці мая душа», «Белая чаромушка», «Кацярына», «Веру я веру», «Букеты белых роз». Гурт зайграў таксама вядомую падляшскую песню «Колі ты бэрэгом ідэш», якую падхапіла публіка. «АС» заспяваў таксама рускую песню «Мне мама гаварыла» і польскія песні з альбома «Zatańczmy jeszcze raz», які з'явіўся ў канцы ліпеня гэтага года: «Szkoda łez», «Na Miami», «Moja dziewczyno», «Na zamku». Пры гурце «АС» усе спявалі і вельмі добра гулялі.

Сярод натоўпу людзей быў мой сардэчны сябра — паэт Юры Баена, які разам з сям'ёй завітаў на беларускі фэст у Канюкі. Госцем фэсту быў вядомы беластоцкі акцёр Анджэй Бэя-Заборскі, вядомы роляй камендатна паліцыі ў польскай кінакамедыі «U Pana Boga za piecem», якая здымалася на Падляшшы. Сярод публікі былі людзі з навакольных вёсак: Рыбалаў, Паўлаў, Давідовіч, Войшкаў, Пухлаў. На фэсце пабыў бы я даўжэй, калі б не тое, што жонка і цешча спяшаліся дахаты, каб у 20:15 пагдядзець папулярны апошнім часам у Польшчы ўкраінскі тэлесерыял «Крепасная», які яны вельмі любяць.

# У белы дзень, у чорную ноч...

Ніхто ж не стараецца чагосьці згубіць, нават Папялушка свой крышталёвы боцік. Проста пакінеш штосьці на лаўцы, штосьці высунецца табе з кішэні ці кашалька. Добра, калі сярод дакументаў ёсць нейкая нататка з нумарам тэлефона, ці пасведчанне асобы. Калі хто знойдзе... Але бывае так, што знаходнік забярэ грошы, банкавую карту, а пасведчанне выкарыстае для таго, каб узяць крэдыт на імя згубіцеля. І валяюцца пустыя кашалькі ў сметніцы. Тым больш, калі яны ўкрадзеныя. І шукай ветру ў полі, блакіруй свае дакументы, вырабляй новыя. Калі ты разява, дык пільнуй свайго!

А пачнеш дапытвацца, шукаць месца, дзе згубіў маёмасць, дык цябе можа спаткаць не вельмі прыемная страшнаватая сітуацыя. Асабліва калі гэта здарылася ў доўгі ўік-энд, які ў сённяшняй Польшчы здараецца вельмі часта. Народ любіць адпачываць, расслабляцца. А такі час для аматараў лёгкай спажывы выдатны. Студэнт універсітэта першамай канчаў доўгім шпацырам. Пасля трынаццаці кіламетраў вячэрняй прагулкі хацелася яму напіцца вады. Адзінай адкрытай крамай быў кругласутачны, скажам, «Космас алкаголяў». За літр вады заплаціў картай са свайго вельмі пукатага кашалька. Там было толькі 20 злотых «на чорную гадзіну», розныя карты, білет з універсітэта, білет заўзятара спартклуба «Ягелонія» і розныя нататкі, дык кашалёчак выглядаў самавіта. Праз тры хвіліны сеў у таксі. А калі апынуўся пад домам, аказалася, што няма ў яго кашалька. Назаўтра збегаў у банк — аказалася, што з яго карты хтосьці якраз узяў сто злотых. Сказалі яму бегчы на паліцыю, заявіць аб крадзяжы карты і іншых дакументаў ды абавязкова заявіць у загсе пра страту пасведчання асобы. Найбліжэй было да паліцыі. Сонны дзяжурны прыняў заяву, загадаў пацярпеламу... падзьмухаць у алькамат ды пасля пайсці ў І камісарыят паліцыі. Студэнт гэтак зрабіў, а пасля сазваніўся з крамай. Уласнік крамы дамовіўся з ім пасля 20 гадзіны. Паказаў яму фільмік з камеры, як купляе той ваду, а каля яго хтосьці круціцца. «Гэты фільмік анлайн, другі раз немагчыма яго паказаць», — засцярог крамар і запрасіў яго на заплечча. А там сімпатычны брат крамара выцягнуў з шуфляды два нажы, і перакідваючы іх з рукі ў руку прадставіўся: «Мяне за крадзяжы судзілі і пасадзілі. Маю «маёра» на плячы, паказаць табе?» Студэнту па спіне пабеглі халодныя мурашы. Хутка пакінуў «Космас алкаголяў» і цяпер абмінае яго далёка. А кашалёк знайшоўся. Злодзей, праверыўшы, што на карце ў студэнта грошай больш няма, кашалёк выкінуў дзвесце метраў далей, каля стаянкі таксі. Таксіст знайшоў нумар студэнта ў інтэрнэце і пазваніў яму пра знаходку. У крыху патузаным кашальку сярод паперчын ляжалі нават тыя 20 злотых. Але дакументы і карты прыйшлося памяняць. Ды неўзабаве зноў страціў свой студэнцкі білет ды банкавую карту. На «Басовішчы». Інфармацыю аб згубе паведаміў на сайце Гарадоцкай гміны, шмат інтэрнаўтаў з Гарадоччыны яго паведамленне скапіравала, і знаходнікі адразу адгукнуліся. Дакументаў, згубленых на «Басовішчы», была цэлая купка. Знаходнікі прыносілі іх пад Надлясніцтва Валілы і аўтамайстэрню (тудою вяла самая проста сцежка ва ўрочышча Барык) і клалі іх па падмурку каля брамы. Так што маладых разявак, што парастрасалі свае дакументы на апошнім фестывалі маладой беларускай музыкі чакаюць іхнія дакументы якраз там. Бо на «Басовішчы» ніхто не краў.

Не толькі маладыя людзі разявакі. Асабліва старэйшыя людзі «гапы». Тэрэса з аседля Пяскі не адна была, калі пакінула на лаўцы на прыпынку аўтобуса № 19 свой чырвоны кашалёк. Была яна з мужам — рабілі большыя пакупкі ў «Каўфляндзе» каля аўтавакзала ў Беластоку. Вярнуліся дахаты — мац-мац у торбе — няма кашалька. А там былі і дакументы, і карты, і вялікая колькасць грошай — жмут польскіх «стовак». І пасведчанне аб дыябеце пані Тэрэсы. Не паспелі заламаць рукі ў адчаі — стукае паліцыя. «Вы згубілі грошы, пані Тэрэса?» Знайшоў іх пан Ян. Маю тут яго тэлефон, калі нешта ў вас прапала з кашалька»! Аказалася, Ян з Ляўкова апынуўся на той лавачцы, хаваючыся ад дажджу перад сваёй дарогай дадому. Сядзела яшчэ іншая дамачка, якая касілася на пакінуты кашалёк. Янка хутка набраў нумар 112, паведаміў паліцыю пра знаходку. Паліцыянты хутка прыехалі, спісалі даныя Яна, разам пераглянулі кашалёк, пералічылі грошы. На пасведчанні асобы быў запісаны адрас, дык адразу павезлі згубу да адчайных згубіцеляў. Янку, які ўжо ехаў у Ляўкова на аўтобусе, даганіў званок пані Тэрэсы з падзякамі. Хацела яна, каб напісаць у газеце пра тое, што ёсць жа парадачныя, сумленныя, добрыя людзі. Але РОДО! Нельга паведаміць нават на дошцы аб'яў пра падзяку канкрэтнай асобе. Але так ёй хацелася падзяліцца радасцю ад таго, што пазнаёмілася такім выпадкам з такім добрым чалавекам. Зайшла я да яе ў госці. У прыгожай вялікай кватэры, абстаўленай каталіцкімі памяткамі з пілігрымак, лікамі святых, прынялі мяне немаладыя прыгожыя, светлыя людзі.

— Дык я хоць пану Янку на Яна вышлю віншавальную паштоўку з падзякай.

— Але на Яна, 7 ліпеня, па-старым стылі.

— Дык што ён — праваслаўны!? Я першы раз... Не спадзявалася...

— А што, праваслаўных не бачылі ў Беластоку? А дзень нараджэння пана Яна 8 жніўня.

Найбольш прыкры крадзеж — у дзяржаўнай установе. І ў белы дзень. Вандруючы па вёсках, мела я непрыемную прыгоду з ПКСам. Увайшоўшы ў салон, дала кіроўцу грошы на білет. Ён грошы ўкінуў у скрыначку, але квітка да Нараўкі мне не даў. Калі я папрасіла ў яго квіток за праезд, паказаўшы на таблічку «Płacąc za przejazd, żądaj biletu». Відаць, пра гэта мусілі нагадваць пасажырам, калі не кіроўцу. Шафёр замахнуўся на мяне кампосцерам. «Панавучаліся па гэтых вёсках! Яшчэ пойдзеш пешку!» Непатрэбна паказала яму свой журналісцкі білет у Нараўцы. Калега вадзіла хутка папёр да свайго сваяка, якія працаваў у нашым выдавецтве (PCB), і той... выкраў мой тэкст, прыгатаваны да друку, пра розныя паталогіі на нашых дарогах. Тэкст усё ж пайшоў, у «Ніве», рэдактар які займаўся праверкай, як установы аднесліся да інтэрвенцыі, адправіў выразку з «Нівы» з перакладам на польскую мову ў ПКС, і шафёр страціў гадавую прэмію. А маю сяструу зачапіў быў у аўтобусе іншы шафёр: «Пачакай, тваю сястрычку ніхто не павязе!» Бачу цяпер час ад часу таго першага вадзілу, ужо ён сівы, ды яшчэ возіць людзей. Здаецца, што праз дзесяцігоддзі мяне пазнае. ПКС мае «Новую» назву, скарачае маршруты па вёсках, дзе дажываюць старэчы (быццам бы яны ўсе маюць самаходы), а ж не прыватная ён фірма, дзе якісь «пан» у белы дзень абкрадае сваю суполку.



Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Дэмаграфія Мельніцкай гміны

Мельніцкая гміна Сямятыцкага павета Падляшскага ваяводства займае плошчу ў 196 квадратных кіламетраў — гэта 13 % тэрыторыі павета. Яна з усходу мяжуе з Рэспублікай Беларусь.

Зараз Мельніцкая гміна налічвае 23 населеныя пункты, у якіх пражывае 2427 чалавек (у 2004 годзе было 2708). Шчыльнасць насельніцтва складае 13 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 109 жанчын. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын больш чымсьці мужчын у 2,5 раза.

Найбольшыя вёскі лясной надбужанскай гміны (лясы займаюць 59% гміннай тэрыторыі) гэта Мельнік — які налічвае 887 жыхароў, Вілінава — 191, Машчона-Каралеўская — 189, Такары — 130, Сутна — 126, Неміраў — 125, Радзівілаўка — 101 і Аслова — 99. Да сярэдніх вёсак належаць: Гамоты — 80, Кудэлічы — 74, Мацьковічы — 75, Адамова — 70, Вайкаў — 55, Мэнтна — 50, Паўлавічы — 41, Адамова-Застава і Аксютычы — па 38. Самыя малыя вёсачкі гэта Конскія Горы — усяго 2 жыхары, Парэмбы — 5, Грабавец — 9, Катэрка — 12, Альховічы — 13 і Станковічы — 17. Зараз у забыццё адышлі былыя мясцовасці Дэмбняк, Павалы і Жолэндн э.

З 2016 года да жніўня гэтага года ў Мельніцкай гміне колькасць жыхароў паменшылася на 108 чалавек, — паінфармавала Іаланта Галэцкая, інспектар у тамашнім ЗАГСе. Лік насельніцтва скараціўся ў Мельніку — на 16 чалавек, Німіраве — на 15, Сутне і Такарах — па 12, Вілінаве — на 11, Машчоне-Каралеўскай — на 8, Мэнтнай — на 7, Адамове, Кудэлічах і Радзівілаўцы — па 6, Гамотах і Паўловічах — па 5. Пабольшала жыхароў у Вайкаве — на 5 і Мацьковічах — на 2 чалавекі. **(яц)**

## Каму як жывецца?

Калі Права і справядлівасць з «Добрай зменай» прымала ўпраўленне краінай, дык пісаўскія аратары абяцалі ўсім малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, адным словам, дастатак меў царыць у народзе. А што вынікла з абяцанак пасля двухгадовага праўлення? Прэм'ер-міністр Бэата Шыдла даступіла гонару павышэння на пасаду віцэ-прэм'ера ў камандзе Матэвуша Маравецкага, а сваім міністрам уступаючага ўрада ў падарунку сыпнула грашовымі ўзнагародамі. Вось, даражэнькія, як справа маецца. У падліку вынікла ні больш, ні менш як паўтара мільёна злотых. Але шыла ў мяшку не схаваеш. У лютым 2018 года пасол Грамадзянскай платформы Кшыштаф Брэйза выявіў таямніцу. Учыніўся скандал. Асноўны аратар «Добрай змены» Бэата Шыдла з сеймавай трыбуны, жэстыкулюючы рукамі, гарлапаніла: «Гэтыя грошы нам належацца!». Іншай думкі быў народ, якога голасу паслухаў прэзас Качыньскі і загадаў: грошы вярнуць. Не стану перажоўваць мінулае, але кляймо сораму і ганьбы прыліпла да «Добрай змены». А як зараз справа маецца перад маючымі адбыцца парламенцкімі выбарамі? ПіС мабілізуе свой электарат, каб адно перамагчы на асенніх выбарах і завяваць большасць у парламенце. Асноўнымі героямі хлусні, сораму і ганьбы з'яўляюцца важакі кіраўніцтва партыі Права і справядлівасць — прэзас Качыньскі ды прэм'ер Маравецкі. На выбарчых мітынгах хлуснёй займаюцца ды зноў абяцаюць людзям сацыяльна-бытавыя дабрадзейнасці. Але ці апраўдаюць сваю «выбарчую каўбаску» пры чарговых скандалах: паднебных падарожжах маршалка Кухцінскага з сямейнікамі ды калегамі, затым тролліннгу ў міністэрстве юстыцыі? Ляяцаць галовы міністраў і высокіх чыноўнікаў у мінюсце. Гаворыцца, што гэта адно вяршок айсберга. Царыкі «Добрай змены» дагэтуль жылі прыпяваючы, а «другі сорт» ледзь зводзіў канцы з канцамі. І што на гэта скажаце, паважаныя аратары «Добрай змены». Надыходзіць час разрахунку. Суверэн вас разлічыцца!

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Брусніцы
## — апошні падарунак лета



А я то аж пад Гайнаўкуездзіла збіраць, — заявіла цётка, ад якой я набыла кошычак брусніц у Беластоку. Дзікія ягадкі з родных лясоў — гэта падвойная радасць і смакоцце.

Тым больш, што брусніцы — рэдкія ягадкі ў нашых лясах. Яны растуць непрыкметна, у сваіх мясцінах, часам іх памыляюць з журавінамі. Але на журавіны яшчэ рана, яны даспяваюць у канцы верасня або ў кастрычніку. Брусніцы прыгожыя для вока. Яны ярка-чырвоныя, з бялюткімі бачкамі, ягадкі вісяць паміж цвёрдых, цёмных лісцікаў. Іх гронкі прыхаваныя ля самай зямлі. Мова пра лясныя, дзікія віды гэтай расліны. Сёння вырошчваюць брусніцы ўжо прамысловым спосабам, на фермах. Найбольш у Скандынавіі, дзе сочыва служыць у якасці дадатку да мяса.

Мы аднак прыдбалі беларускі рэцэпт на варэнне з дзікіх брусьнічак. Каб атрымаць салодкае сочыва, трэба пароўну змяшаць ягады з кіслымі яблыкамі, грушамі і цукрам. Гатовае варэнне напамінае сваім выглядам жэле, а яго смак напамінае пра сонечнае лета і прыгожы стары лес.

Смакоцце як казка! Рэцэпт падказала наша чытачка, пані Аня Садоўская-Тарасевіч з Валілаў-Двара, што на Гарадоччыне.

Зорка

Клаўдзія Ніканчук



# Дзённік
## Сустрэч «Зоркі» (9)

12 чэрвеня, серада, гадзіна 17:00

Знаёмасць з месцам заўсёды трэба пачаць са знаёмства з людзьмі. У нас усё было на месцы, паколькі сям'я Казлоўскіх, можна сказаць — соль Нараўчанскай зямлі.

Яшчэ ў сераду наведалі нас асаблівыя госці — браты Янка і Кастусь Целушэцкія з Новага Ляўкова. Спадар Янка ў школьныя гады моцна пасябраваў з «Зоркай». Сюды дасылаў свае допісы пра жыццё ляўкоўскіх вучняў і настаўнікаў. Гэтая сувязь падмацавалася, калі стаў працаваць настаўнікам. «Ніва», як сказаў наш госць — была ўсім! Яна была ў кожнай хаце на галоўным месцы. Любоў да роднага тыднёвіка захаваў цягам доўгага, працавітага жыцця. Сёння наш госць распаўсюджвае «Ніву» ў сваёй гміне. Гэта няпростая задача. Сучасны народ не надта горнецца да чытанкі. Янка Целушэцкі расказаў пра адзін выпадак:

— Быў час, што я стаміўся распаўсюдам і падумаў сабе: што будзе калі перастану разносіць па хатах «Ніву»? Ці людзі адчуюць недахоп? Ці будуць нейкія скаргі, пратэсты?

Адказ прыйшоў ужо пасля некалькіх тыдняў:

— Людзі спынялі мяне на вуліцы і пыталі: што здарылася, чаму няма газеты?

Ці перасталі яе друкаваць?

Тады адчуў ён вялікія эмоцыі, падтрымку і зразумеў як важная яго валанцёрская праца.

Янка Целушэцкі не толькі дзейсны карэспандэнт і распаўсюджвальнік «Нівы». Ён таксама аўтар кніг і апавяданняў, якія друкаваліся ў Мінску. Таксама працуе ў карысць мясцовага грамадства як гмінны радны. Былы настаўнік і карэспандэнт «Зоркі» сказаў, што найбольш за ўсё на свеце цэніць яго творчае супрацоўніцтва з родным тыднёвікам.

Гэты прыгожы ўрок прывязанасці і пашаны для роднай мовы прадоўжылі чытанкі спадара Кастуся Целушэцкага...

рэд.

# УВАГА КОНКУРС!
## № 35-19

Круглы, ды не гарбуз,
з хвосцікам, ды не мыш.
(Я....)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 16 верасня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 31: зубы і язык. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Магда Якубюк і Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

*Клаўдзія Ніканчук*
«Бел-News»

## Сон

Ціхі, лагодны, сон
ён падабаецца мне.
Люблю, калі сон абдымае мяне,
і розныя думкі дае.
Раз – добрыя і вясёлыя,
іншы раз – прыгожыя.
Тады не хачу прачынацца,
хачу ім карміцца, натхняцца.

# Абаронца

Аднойчы ў вёсцы Дамбровічы жыў хлопчык Вася са сваёй сям'ёй. Вася вучыўся ў першым класе і кожны дзень хадзіў у школу. Дзеці з яго смяяліся, строілі жарты, а настаўнікі паўтаралі:

— Калі ты не ўмееш абараніцца, цябе заўсёды будуць абражаць і біць!

Старэйшы брат бараніў Васю, але з часам ён з'ехаў за мяжу вучыцца ў прэстыжным універсітэце. Хлопчык астаўся сам, як палец.

Аднойчы, калі ён вяртаўся са школы дамоў, хлопцы ўвапхнулі яго ў рэчку. Вада была халоднай, бруднай і бурлівай. А Вася не ўмеў плаваць і пачаў тапіцца. Крычаў, прасіў — нішто не дапамагло! Хлопцы стаялі на беразе і рагаталі...

І раптам аднекуль прыбег сабака, які кінуўся Васю на дапамогу. Ён выцягнуў хлапчука з вады і абараніў ад жулікаў. Спачатку Вася падумаў, што сабака хоча яго з'есці. Аднак — не! Ён лёг каля хлапчука і стаў лізаць яму твар. Вася пачуў цяпло і заснуў. Мінула колькі часу і сабака стаў брахаць. Вася прачнуўся і ўбачыў, што шуміць дождж. Ён устаў на ногі і пацягнуўся да свае хаты. За ім ішоў сабака і радасна віляў хвастом...

Спачатку Вася адганяў яго, крычаў:

— Табе нельга са мной! Бацькі будуць злаваць на мяне, яны не хочуць гадаваць сабаку!

Сабака быццам усё зразумеў, адбег у свой бок і знік.

Калі Вася прыйшоў дахаты, маці спытала:

— А ты чаму такі мокры?

— Мяне хлопцы шпурнулі ў раку, — адказаў, — утапіць хацелі...

— Ну, не хлусі, — абурылася маці, — ідзі, пераапраніся ў сухое.

Калі хлопец ішоў у свой пакой, яго прыкмеціў бацька. Ён узяў паясок і пачаў лупіць сына. Праўда, маці бараніла, але мужчына і над ёй пачаў здзекавацца, пагражаць. Заплаканы Вася схаваўся ў сваім пакоі і не спаў усю ноч. Раніцай ён стралой выбег з хаты, каб не сустрэцца з бацькамі...

На ўскраіне вёскі ён зноў убачыў сабаку. Гэта быў той самы сабака, які ўратаваў яму жыццё.

І так было кожны дзень. Яны разам хадзілі ў школу, разам вярталіся са школы. Хлопцы перасталі чапаць першакласніка. Аднойчы зімой Вася схаваў сабаку ў хлявок, каб той не замерз на двары. Пра гэта даведаўся бацька. Ён загадаў прагнаць сабаку з панадворка. Вася пабег да хлява і выпусціў свайго сябру. Якраз пачаў ісці снег. Хлопчыку было вельмі холадна. Ён падумаў, што пойдзе да сяброўкі Ніны. Вася шпурнуў снежкай у акно, але дзяўчынка спалохалася, не паказалася ў акне. Тады ён пачаў клікаць яе па імені:

— Ніна! Ніна!

Калі яна распазнала голас Васі, упусціла яго ў хату. Бацькі дзяўчынкі не ведалі, чаму Вася вечарам прыйшоў у іх хату, аднак дазволілі яму пераначаваць.

Дзесьці ў сярэдзіне ночы прыйшлі бацькі Васі і забралі непаслухмянага сына дамоў. А раніцай яны ўсе шчыра пагаварылі. І гэта быў самы цудоўны дзень у жыцці першакласніка. Бацькі дазволілі яму прытуліць сабаку. З гэтай пары Вася перастаў баяцца і стаў добра вучыцца.

**Паўліна Ёдла, «Бел-News»**


Злева: Паўліна Ёдла і Клаўдзія Ніканчук

## Сяргей Грахоўскі
# Я чытаю і пішу

За сталом я гаспадар –
Тут задачнік і буквар,
Сшыткі ў клетку і ў касую,
А у гэтым я рысую
Ў сінім небе караблі,
Што лятуць вакол зямлі.
Маляваў учора зорку –
Мне паставілі пяцёрку,
А вось мора і маяк
Не выходзяць аніяк.
Налягаць пачаў на сцірку
І працёр у сшытку дзірку.
Я чытаю, і пішу,
І задачкі ўсе рашу,
Буду палачкі складаць:
Колькі будзе пяць і пяць?
А як вывучу ўрок,
Выбягаю за парог,
Бо сябры крычаць з двара:
— Вася, ў школу нам пара!

# Сустрачанскі апытальнік



**Янка Целушэцкі** — настаўнік, журналіст, радны Нараўчанскай гміны, карэспандэнт «Зоркі» з 62-гадовым стажам.

**1. Сустрэчы «Зоркі» гэта для Вас:**
— Вялікая справа.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**
— «Імгненне».

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**
— Новае Ляўкова.

**4. Галоўнае правіла журналіста:**
— Акуратна збіраць матэрыялы.

**Найцяжэйшая праца для вас гэта:**
— Што – небудзь адрамантаваць.

**5. Што Вас натхняе?**
— «Ніва» і «Зорка», калі друкуюць мае допісы і здымкі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 35-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 31-2019:**

Прас, палата, пальчык, мальва, сталь, ой, Рым, панарама, лік, майстар. Паласа, пік, марак, палын, пальма, бал, рой, львіца, дача, мат, ты, ода, хакей, яр.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** і **Магда Якубюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Ostrze, Bór, Małpa, Legenda, Lotny, Akt, Kołacz, Oksana, Tolek, Nakaz, Orlec, Bierz, Sen, Ania, Ona, Ala, Ankieta, Liana, Oka, Ona, Noce



**Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ**
*Беласток*

## Мароз

Зімны вецер гуляе над борам,
ужо з гор не бягуць ручайкі.
Там мароз-старшыня
ўжо ходзіць,
даглядае палі і лясы.

Глядзіць ці снежныя завеі
дарожкі ўсе замялі,
сонныя дрэвы ласкае,
снежныя студзіць гурбы.

Заглядае ў глушу ён лясную,
дзе лісы і ваўкі ўсё сядзяць,
глядзіць ці лясныя звярочкі
усе ў норках сваіх ужо спяць.

Ідзе і вакол спаглядае
на белую снежную даль.
Сястрычку Зіму ён вітае,
запрашае на марозны яе баль.

Ён з уюгамі песні спявае,
трашчыць у замерзлай вадзе.
А яснае сонца гуляе
у белай яго барадзе.

## Вецер

Скажы мне, мой вецер,
мой вецер крылаты,
шумі і ляці да мяне,
вецер мілы.
Ты гуляй і ляці,
і мне памажы,
бо ісці ўжо не маю я сілы.
Ты ляці да мяне
па дарозе маёй,
кепскую долю маю развявай.
І мне, мілы, скажы,
ці не можаш усё ж ты
да мяне
добры лёс падагнаці.
Палячу я па полі,
закрунуся ў гаю,
буду з дрэвамі песні спяваці.
І твой лёс, добры лёс,
што загінуў ад слёз,
я табе памагу адшукаці.

## Верыла, веру

Цвіце над ракою каліна,
ізноў пад калінай стаю,
і хоць усё верыла, веру,
сустрэць мілага я не магу.

Верыла, верыла, веру,
каліну белую ламлю,
і ніяк не паверу,
што ты не кахаеш адну.

Любоў у даль паляцела,
стаю пад калінай адна,
і хоць усё верыла, веру,
што асталася сама.

І белыя кветкі каліны
я абрываю, тапчу,
капаюць горкія слёзы,
забыць яго я хачу.

Любіш — не любіш, забудзеш,
каліну ўбачыш заўжды,
хоць на канец ты палюбіш,
ды будзе ўжо позна тады.

Верыла, верыла, веру,
каліну белу ламлю...




## Летнія ночы

Сядзелі мы ў летнія ночы,
месяц ціха з-за хмар выглядаў.
Адышлі ўсе шалёныя ночы,
сёння п'ю за разлучныя дні.

У вочы мае ты глядзеў да паўночы,
зоркі з неба мне зняць абяцаў.
Куды адышлі шалёныя ночы,
чаму асталіся разлучныя дні?

Свяціў нам месяц проста ў вочы,
вецер у травах ціха ўздыхаў.
Ты прытуляў, цалаваў мае вочы
і кахаць назаўжды абяцаў.

Вецер засыпаў пяском мае вочы,
калі на сустрэчу ты не прыйшоў.
Сёння я п'ю за шалёныя ночы,
і вып'ю за гэты разлучныя дні.

## Вясна

Сонца свеціць, то дожджык шуміць,
вясна кветкі вакол палівае.
А дарожка кахання ў даль бяжыць,
кожны гэту дарожаньку знае.

А дарожка бяжыць і бяжыць
праз зялёны, квяцісты дыван.
І я да цябе зноў бягу,
і дарожку я гэту знайду.

А зязюля куе і куе,
дзе вішнёвы сад расцвітае.
І яна, і яна, і яна
гэту дарожаньку знае.

А ў зялёным гаі салаўі
усё так прыгожа спяваюць,
і яны, і яны кахання дарожаньку
знаюць,
прыгожую сцежку любві,
якой ходзіш і ты.

Мінуў год і яшчэ тры гады,
а дарожкай зноў ідзеш ты.
Ты — ясны цудоўны сон мой.
«Будзь мая,
я — навек ужо твой».



**Люба САКОВІЧ,**
**Юшкаў Груд**

## «Ніва»

Як то на свеце сумна было б, калі б не хадзіла «Ніва» кругом.
«Ніва» ў вёсцы, «Ніва» ў свеце. Чытаюць «Ніву» старыя і дзеці.
Бо як патрэбна Сонца кветкам, патрэбна «Ніва» ўсім нашым людзям!
У «Ніве» крытыка, у «Ніве» весткі, і як зварыці, як хочаш з'есці.
Тут гаспадыня спосабы знае, і сны Астрон табе разгадае.
«Сэрцайка» любага табе прызаве, а звонкая песня ў сэрцы ўзаўе.
«Ніву» чытайце, з «Нівай» спявайце. Будзьце здаровы. «Ніву» чакайце.
Тыдзень праходзіць. Час уцякае. «Ніва» ў хаце зноў нас вітае.
Каб не газета і весткі новы — то мы забылі б родную мову!
А як абідна было бы жыці, каб на роднай мове не гаварыці!

**Крыстафор АНГЕЛЬЧЫК**

## 7 лістапада

Іду ў «Ніву».
СВЯТА.
Ззаду хачу –
Крата!!!

## конкурс

Тры трэба
Пішу
У неба

## сціхні

Пісаць трэба
Да старасці

# Святкаванні ў Залешанах і Саках



Мужчынскі манастыр святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках і Жаночы манаскі дом святой велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах распалажаны побач сябе, у суседніх сёлах. Былі яны заснаваныя нядаўна і цесна супрацоўнічаюць паміж сабой. У час свята Залешанскай іконы Божай Маці, якое было 27 ліпеня, традыцыйна ў апошнюю суботу гэтага летняга месяца, у Залешанах адбылося ўмураванне краевугольнага каменя пад будову царквы велікамучаніцы Кацярыны ды падляшскіх і холмскіх мучанікаў. Падчас свята Праабражэння Гасподняга, 19 жніўня, вернікі па-за царкоўнай агароджай на ўскраіне Дзмітрыеўскай горкі каля Сакоў убачылі расчышчаную ад дрэў і кустоў пляцоўку, якая вясной і летам гэтага года была прыстасаваная на аўтастаянку. На горцы, на частцы ўпарадкаванай пляцоўкі будзе ўзведзены манастырскі комплекс.

### Царква велікамучаніцы Кацярыны і падляшскіх і холмскіх мучанікаў

Свята Залешанскай іконы Божай Маці пачалося 26 ліпеня ад усяночнай багаслужбы. Аднак найбольш паломнікаў сабралася 27 ліпеня, багаслужбу ўзначаліў мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава ў саслужэнні архіепіскапа бельскага Грыгорыя, епіскапа гайнаўскага Паўла і епіскапа супрасльскага Андрэя. Манахіня Кацярына (Нічыпарук) з 2007 года паспяхова кіруе дзейнасцю Свята-Кацярынінскага жаночага манаскага дома ў Залешанах, які быў тады заснаваны на месцы, дзе раней жыла і гаспадарыла сям'я. Раней расказвала яна гісторыю Залешанскай іконы Божай Маці. Асоба, якая хварэла, прыехала памаліцца ў Залешаны і прасіць выздараўлення. У час літургіі ўбачыла яна на іконе Божую Маці ў акружэнні сямі анёлаў. Пасля ў сне яна некалькі разоў пачула жаночы голас, які гаварыў, каб напісаць ікону Божай Маці. Гэтая асоба выздаравела і была здзейснена пачутая просьба. Залешанская ікона Божай Маці пастаянна знаходзіцца ў драўлянай царкве манаскага дома. Знізу іконы напісаны трапарыён «Радуйся, Благодатная Богородіцэ Дево, весь Залешаны от унічтожэнія вражыя сохраніла есі, і нас ныне просяшчых Твоея помошчы і заступленія от діявольскіх козней зашчыті, моляшчы Сына Твоего і Бога нашэго, поміловаті душы наша». Злева ад трапарыёна на іконе знаходзіцца выява дома, які заняў пажар, а справа на іконе відаць трое малых дзетак у агні. Манахіня Кацярына ўдакладняе, што напісаныя на іконе дом і дзеткі спасылаюцца на трагічныя здарэнні ад 29 студзеня 1946 года ў Залешанах. Манахіня мяркуе, што дзякуючы хадайніцтву перад Богам загінуўшых тады ў Залешанах людзей паўстаў і дзейнічае манаскі дом.



Закладка краевугольнага каменя пад будову царквы велікамучаніцы Кацярыны ды падляшскіх і холмскіх мучанікаў



Малітва на месцы, дзе 29 студзеня 1946 года былі сагнаны жыхары вёскі ў хату, якая была падпалена

Пасля літургіі вернікі перайшлі па манаскім панадворку на месца будовы мураванай царквы. Там маліліся мітрапаліт Сава ў саслужэнні епіскапаў, святароў і паломнікаў. Быў закладзены краевугольны камень пад будову царквы велікамучаніцы Кацярыны і падляшскіх і холмскіх мучанікаў. Ужо традыцыйна падчас свята Залешанскай іконы Божай Маці вернікі з харугвамі і малітвай пайшлі на месца, дзе 29 студзеня 1946 года ў Залешанах атрадам польскага падполля жыхары вёскі былі сагнаны ў хату, якую падпалілі. Хаця людзям удалося ўцячы з палаючай хаты, у Залешанах ад рук жаўнераў «Бурага» загінула тады 16 чалавек, у тым ліку жанчыны і дзеці, а амаль уся вёска была спалена. Духавенства і вернікі маліліся каля крыжоў усярэдзіне вёскі, успамінаючы імёны загінуўшых. Вярнуўшыся на манаскі панадворак мітрапаліт Сава заявіў, што Кацярынінская царква будзе нагадваць замучаных за веру. Заклікаў ён маладых асоб дакрануцца да зямлі акропленай крывёй забітых у Залешанах сялян. Мітрапаліт Сава заклікаў раздічваць на апеку Божай Маці, якая паявілася цяпер у выглядзе Залешанскай іконы Божай Маці. Павялічваецца колькасць праваслаўных вернікаў, якія пастаянна прыязджаюць маліцца ў Жаночы манаскі дом у Залешанах, дзе літургіі служацца ў апошнюю нядзелю кожнага месяца. Частка гэтых асоб уключылася ў будову драўлянай царквы з уцепленымі сценамі, прыстасаванай таксама да служэння ў ёй у зімовы час, якая нядаўна была здадзена ў карыстанне. У ёй паломнікі будуць маліцца да часу ўзвядзення мураванай царквы. У кожную нядзелю ў Залешанах служацца вячэрнія багаслужбы з удзелам жыхароў Залешан і паломнікаў, чытаюцца акафісты, а ўзначальваюць іх іераманахі з Мужчынскага манастыра ў Саках. Манахіня Кацярына, якой сям'я найбольш пацярпела ў час спалення Залешан атрадам польскага падполля, у час багаслужбаў кіруе хорам Свята-Дзімітрыеўскай царквы ў Саках.

— Тут у Залешаны нехта прыцягвае да малітвы, паколькі па апошніх нядзелях месяца збіраецца тут шмат народу, — заявіла паломніца.

Манахіня Кацярына, з якой займаюцца ў манаскім доме дзве паслушніцы, удакладніла, што сярэдняй велічыні царква будзе ўзведзена ў візантыйскім стылі. Непадалёк ад планаванага месца будовы мураванай царквы знаходзіцца будынак з вялікай сталовай і начлежнымі пакоямі. Пасля багаслужбаў паломнікі пакланіліся Залешанскай іконе Божай Маці і іншым іконам, а пасля частаваліся супам, кампотам і пячэннем.

### На Спаса ў Сакі

— На Спаса ў Сакі, — апошнімі гадамі з такім рашэннем штораз больш людзей прыязджае на свята Праабражэння Гасподняга ў Дзімітрыеўскую царкву на горцы каля Сакоў. Абавязкова пакланяюцца яны іконе святога Дзмітрыя Салунскага. Гісторыя іконы, паводле аповедаў мясцовага насельніцтва і пісьмовых крыніц, сягае ажно ў турэцкую няволю, з якой з цудатворнай іконай вярнуўся на радзіму жыхар Сакоў.

Сёлета многа паломнікаў на святкаванне Праабражэння Гасподняга на горцы каля Сакоў. Большасць вернікаў, дзякуючы сонечнаму надвор'ю, малілася звонку царквы. Манастыр велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага ў Саках быў заснаваны ў пачатку новага тысячагоддзя, а першым яго настаяцелем быў тады ігумен, а цяпер епіскап сямятыцкі Варсанофій. Першапачаткова манаскі дом пачаў дзейнічаць у мадэрнізаваным будынку былой пачатковай школы, прыстасаванай на манаскі жылы будынак. Багаслужбы ў галоўнай Дзімітрыеўскай царкве на горцы каля Сакоў адбываюцца па нядзелях і ў час іншых святкаванняў, на якія прыязджаюць прыхаджане з Сакоў і суседніх Тапаркоў ды паломнікі з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Беластока і іншых мясцовасцей. Прыходзяць на малітвы таксама жыхары суседніх Залешан, якія належаць да Кляшчэлеўскага прыхода. Здаўна кожны год кляшчэлеўскі настаяцель мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі разам з памочнікамі прыязджаў 29 студзеня асвячаць крашчэнскай вадой дамы прыхаджан з Залешан і абавязкова маліўся з жыхарамі вёскі каля крыжа за ўпакаенне душ нявінна загінуўшых тут у 1946 годзе. Айцец Мікалай Келбашэўскі сёлета ўзначаліў малітвы 19 жніўня ў час хрэснага ходу. Тады таксама свяціліся яблыкі, грушы, слівы і вінаград. Дэкан Кляшчэлеўскай акругі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі ў пропаведзі звярнуў увагу на значэнне свята Праабражэння Гасподняга ў жыцці людзей, а асабліва ў жыцці мясцовага насельніцтва, якое так шматлюдна збіраецца на Дзмітрыеўскай горцы на супольныя малітвы. Многа вернікаў прыехала на ўсяночную багаслужбу ў нядзелю, якая адбывалася напярэдадні Праабражэння Гасподняга. Тады спаткаў я знаёмых асоб з Гайнаўкі, Беластока, Бельска-Падляшскага і вёсак Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Спатыкаю тут сяброў па школьнай і студэнцкай парце і прафесійнай працы. На размовы ў час такіх святочных спатканняў ёсць мала часу, хіба што ў час пачастунку. На Спаса можна было з'есці суп, выпіць кампот і закусіць салодкім пячэннем, якія раздаваліся адразу за царкоўнай агароджай, на ўскраіне аўтастаянкі.

Зараз у манастыры ў Саках моляцца і працуюць іераманахі, дыякан і паслушнікі. Раней у манастыры займаліся вытворчасцю натуральнага мёду, а зараз манахі і паслушнікі абрабляюць лугі, гадуюць коз, а з казінага малака вырабляюць сыры. Настаяцель Свята-Дзмітрыеўскага манастыра ў Саках архімандрыт Цімафей удакладніў, што будзе будавацца манастырскі комплекс на горцы непадалёк ад Дзмітрыеўскай царквы. Падзякаваў ён прадпрымальнікам, якія бясплатна ўпарадкавалі пляцоўку на ўскраіне горкі.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Канцэрт Міхала Скепкі ў Нараўцы



24 жніўня гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбыўся канцэрт выдатнага тэнара Міхала Скепкі (ён ураджэнец вёскі Пасекі Нараўчанскай гміны) ды яго прыяцеляў Малгажаты Длугаш (сапрана) і Рышарда Моркі (бас) з Варшавы. Выступілі яны з Гродзенскім камерным аркестрам з Гродна пад кірункам Уладзіміра Барматава (Рэспубліка Беларусь). Мерапрыемства вяла Галена-Марыёля Рэент, дырэктарка Гмінннага асяродка культуры ў Нараўцы.

У вольны пасляабедзенны час (канцэрт пачалі а гадзіне 17-й) гледачы выслухалі прыгожых мелодый — спеваў і музыкі — сусветнай славы італьянскіх, нямецкіх і польскіх кампазітараў оперных твораў. Выступоўцы спявалі сола і ў дуэце. У іх моцныя і вельмі прыгожыя галасы. Некаторыя мелодыі артысты выконвалі на біс. Яны вельмі спадабаліся нараўчанскай публіцы. Са сцэны плылі вальсы, полькі, танга, чардашы. Канцэрт быў самы адметны. На яго прыйшлі жыхары Нараўкі, а таксама прыехалі некаторыя жыхары Гушчэвіны, Лешукоў, Новага Ляўкова, Падляўкова, Плянты, Старога Ляўкова, Тарнополя і іншых вёсак. Спецыяльна на канцэрт славутага спевака Міхала Секепкі прыехала Крыстына Касцевіч, журналістка «Голасу Сямятыч».

За выступ знакамітых артыстаў на нараўчанскай сцэне ў амфітэатры шчыра і сардэчна падзякавалі войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі і вядучая музычнае мерапрыемства дырэктарка ГАК у Нараўцы.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## У Беластоку будуюць

У 2018 годзе ў Беластоку пачалі будаваць новыя маставыя на кароткіх пясчаных вуліцах на жыллёвых пасёлках Сонечны Сток, Выгода, Дайліды-Гурныя, Багноўка, Бацечкі і Беласточак. У тым жа годзе пачалі пабудову найперш вуліц Вігерскай і Калёнія-Дайліды, а пасля вуліц Шафранавай і Стакроткі на пасёлку Дайліды. На іх кладуць асфальтавае палатно, пракладаюць тратуары і будуюць новае вулічнае электраасвятленне. Тут будуць таксама рамантаваць вуліцы Цытрусавую ды перабудуюць вуліцы Ліловую і Сямейную. Улады горада намераны перабудаваць яшчэ іншыя вуліцы, між іншым, Сельскую, Мятную, Фруктовую і Крыштальную,

Ужо на жыллёвых пасёлках у Беластоку пабудавалі новыя стаянкі для аўтамабіляў на 200 месцаў, між іншым, пры вуліцах Ляшчынавай, Рабінавай, Гаёвай, Мікалайчыка, 42 Палка пяхоты, Заходняй і Студзеннай. На Новым Месце, Бацечках, Выгодзе і Высокім Стачку пабудавалі дзевяць новых стаянак для легкавых аўтамабіляў. Усё з думкай пра выгаду жыхароў Беластока. **(яц)**




# http://radiobelarus.by/be

Пяць гадоў таму, а дакладней у лістападзе 2014 года, „Ніва" пісала пра сайт „Радыё Беларусь", які месціўся па адрасе http://www.radiobelarus.tvr.by/be. Цяпер дадзенага адрасу ў інтэрнэце ўжо няма, а сайт радыёстанцыі разам з тым па-ранейшаму існуе. Праўда, цяпер яго месца знаходжання — **http://radiobelarus.by/be.**

У папярэднім артыкуле пра „Радыё Беларусь" адзначалася, што яно ад пачатку свайго існавання было арыентавана на беларускую замежную аўдыторыю. Але на дваццатым годзе лукашэнкаўскага праўлення стала ўяўляць з сябе прыклад таго, што сярод беларускіх дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, якія працуюць на замежжа, навучанне беларускай мове і заахвочванне выкарыстання яе ў асяродку замежных беларусаў недзе на апошніх месцах. У якасці прыкладу была прыведзена рубрыка „Праекты", дзе знаходзілася падрубрыка „Урокі беларускай мовы". Адзначаючы, што „мова — душа народа, люстэрка яго жыцця і ўмова існавання нацыі", на сайце хлусліва паведамлялася аб тым, што кожны беларус валодае беларускай мовай, і без яе ведання ў Беларусі не абысціся. Таму і прапаноўваліся запісаныя ўрокі, якія, праўда, не было магчымасці спампаваць.

У цяперашнім віртуальным прадстаўніцтве „Радыё Беларусь" ужо няма сентэнцый пра душу народа і веданне беларускай мовы кожным беларусам. Таксама як няма і тых аўдыёўрокаў. З гэтага вынікае, што за апошнія пяць гадоў дадзеная дзяржаўная радыёстанцыя па сутнасці яшчэ больш аддалілася ад прапаганды мовы за межамі беларускай краіны.

Цяпер сярод праектаў ёсць „З Беларуссю ў сэрцы", які мусіць паказваць „дзейнасць беларускай дыяспары па захаванні і папулярызацыі нацыянальнай мовы, культуры, традыцый, фарміраванні пазітыўнага іміджу Беларусі за мяжой". Зыходзячы з такіх мэт праекта, трэба разумець — беларуская дыяспара няхай сама клапоціцца пра захаванне і папулярызацыю мовы, а „Радыё Беларусь" проста калі-небудзь пра гэта распавядзе.

Што ж тычыцца іншых змен, якія разам з пераменай адрасу сайта адбыліся ў дадзенай радыёстанцыі, то гэта з'яўленне арабскамоўнага вяшчання ў 2017 годзе. Цяпер, паводле інфармацыі на сайце, паказваючы розныя аспекты жыцця дзяржавы, дадзенае радыё стараецца надаваць увагу і звычайным штодзённым клопатам беларускай сям'і, радавога грамадзяніна. „Радыё дынамічна развіваецца, яно аснашчана сучасным абсталяваннем, наш калектыў спалучае маладосць і вопыт, што дазваляе генерыраваць новыя творчыя ідэі і ўвасабляць іх у жыццё", — гаворыцца ў рубрыцы „Пра нас", і больш чым смела, адзначаецца, „Радыё Беларусь" — гэта крыніца аб'ектыўнай і поўнай інфармацыі пра Рэспубліку Беларусь у эфіры і інтэрнэце!".

Сайт радыёстанцыі сцвярджае, што ў яе эфіры ёсць праграмы пра гісторыю, культуру, духоўныя каштоўнасці беларускага народа. Таксама гучаць выпускі навін і інфармацыйна-аналітычныя выпускі, радыёсустрэчы з дзяржаўнымі, палітычнымі, грамадскімі і рэлігійнымі дзеячамі, вучонымі, пісьменнікамі і музыкантамі, майстрамі мастацтва і народнай творчасці, спартсменамі.

Калі ж зазірнуць у рубрыку „Гасцявая", то можна пабачыць мноства водгукаў слухачоў дадзенага радыё. Амаль усе меркаванні станоўчыя.

**Аляксандр ЯКІМЮК**




## 215 гадоў з дня нараджэння

# Аляксандра Ходзькі

Паэт, фальклярыст, славіст, усходазнавец Аляксандр Ходзька нарадзіўся 30 жніўня 1804 г. у мястэчку Крывічы Вялейскага павета (цяперашні Мядзельскі раён Мінскай вобласці). Паходзіў з шляхецкага роду, быў сынам Яна Ходзькі (вядомы пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч), братам Язэпа, Міхала і Станіслава Ходзькі.

Аляксандр Ходзька вучыўся ў Віленскай гімназіі, пазней скончыў са ступенню кандыдата філасофіі Віленскі ўніверсітэт (1825). Далей скончыў вучэбнае аддзяленне жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў у Пецярбургу (1829). За ўдзел у таварыстве філарэтаў у 1823-1824 гг. арыштаваны. У час вучобы ў Пецярбургу (1824-1831) кантактаваў з паэтамі Адамам Міцкевічам, Аляксандрам Пушкіным, Васілём Жукоўскім.

З 1831 г. быў на дыпламатычнай службе Расіі ў Персіі. Гэта быў самы супярэчлівы і складаны перыяд у біяграфіі нашага суайчынніка. Ён вывучаў незнаёмую краіну, яе гісторыю, побыт, культуру, цікавіўся іншымі народамі, падпарадкаванымі Персіі. Але служба царскаму ўраду псіхалагічна прыгнятала паэта. Ён перастаў пісаць вершы, займаўся толькі перакладамі. Трагедыю свайго тагачаснага жыцця Ходзька пераказвае ў адным з пасланняў Адаму Міцкевічу: *«Праз адзінаццаць гадоў побыту на Усходзе думка гэта* (пра службу расійскаму царызму) *пакутавала перад вачыма, пазбаўляла ад сну, грызла сумленне. Мне былі рады, бо служыў я сумленна. Узнагароды і пахвалы мяне не цешылі, сярод калегаў я быў чужы, іншы ад іх думкамі. Пакуль быў з Вамі ў Вільні, унутранае жыццё маё было гэткім ясным і рухомым, ды пачало ўжо канчаць яшчэ ў Пецярбургу, змеркла ў Персіі і, бадай, ці не назаўсёды згасла. Адчуваючы сябе на службе не ў сваёй стыхіі, звярнуўся да ўсходняе паэзіі (...). Неабходнасць маральнага адраджэння, што ўзрастала ўва мне, заставалася неадольнай»*. Міцкевіч, як мог, падтрымліваў сябра ў лістах: *«Зразумей, што ўсё нізкае: апатыя, лянота, нежаданне жыць з'яўляецца нашай спакусай ад Злога. Не шкадуй сіл, каб узняцца над ім»*.

У 1841 г. Ходзька звольніўся з дзяржаўнай расійскай службы і паехаў жыць у Заходнюю Еўропу. Пэўны час быў у Англіі. З 1842 г. Ходзька жыў у Парыжы, як прафесар славянскіх літаратур выкладаў у Калеж дэ Франс (1857-1883). Аляксандр Ходзька папулярызаваў славянскія мовы, фальклор, перакладаў са славянскіх на ўсходнія мовы. Запісваў успаміны Адама Міцкевіча і памагаў яму выдаць іх. Перапісваўся з Адамам Кіркорам, Канстанцінам Тышкевічам, Яўстахам Тышкевічам, дасылаў свае артыкулы ў газету „Kurier Wileński". Напісаў паэму „Залессе" (1822). Ходзька першым апісаў эпас пра Гёр-аглы, вершы туркменскіх паэтаў Махтумкулі, Кеміне, фальклор туркменаў і іншае. Выдаў зборнік „Паэзія" (1829), у які акрамя балад, заснаваных на беларускім і літоўскім фальклоры, увайшлі пераклады навагрэчаскіх (пераважна клефтаў) і марлацкіх песень; збор паданняў і песень народаў паўночнай Персіі (1842), „Персідскую граматыку" (1852). Напісаў даследаванне па курдскай мове, падрыхтаваў размоўнік па турэцкай мове, працу пра помнікі стараславянскага пісьменства і іншае.

Памёр Аляксандр Ходзька на чужыне ў Францыі ў старасці 27 снежня 1891 г. Здарылася гэта ў мясцовасці Нуазі-ле-Сек. Меў 87 гадоў. Пахаваны на могілках у Манмарансі пад Парыжам.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## II LO Z DODATKOWĄ NAUKĄ JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO W HAJNÓWCE

## II ЛІЦЭЙ З ДАДАТКОВЫМ НАВУЧАННЕМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ГАЙНАЎЦЫ

www.bialorushajnowka.pl

Dyrekcja i Rada Pedagogiczna Liceum Ogólnokształcącego z DNJB w Hajnówce oraz Komitet Organizacyjny serdecznie zapraszają Absolwentów naszego liceum z lat 1949 - 2010 do udziału w IV Zjeździe Absolwentów, który zaplanowany został na 28-29 września 2019 roku z okazji obchodów 70 – lecia Szkoły. Przewidujemy atrakcyjny program integracyjny, prezentację dorobku szkoły, bal absolwentów z koncertem, ognisko.

Osoby zainteresowane uczestnictwem proszone są o dokonanie zgłoszenia oraz wpłatę do 30 sierpnia 2019 r. na konto :

Bank BNP Paribas: 63 1600 1462 1821 7925 0000 0001

w tytule przelewu prosimy wpisać :
imię i nazwisko ( również nazwisko panieńskie (dotyczy tylko Pań) ) klasa , rok ukończenia szkoły.

Koszt :
**opcja I** : 100 zł część oficjalna, poczęstunek ( szwedzki stół ), zdjęcie zbiorowe, licealny śpiewnik, przypinka zjazdowa
**opcja II** : 240 zł część oficjalna oraz bal absolwentów
**opcja III** : 270 zł część oficjalna, bal absolwentów oraz ognisko

Po dokonaniu przelewu prosimy o wysłanie informacji na adres email: zjezdinfo@gmail.comz aktualnym imieniem i nazwiskiem, adresem oraz z numerem telefonu. Powyższe dane pozwolą nam na sprawną organizację przedsięwzięcia, kontakt w razie potrzeby jak i również kontakt gdy będziemy organizować kolejny Zjazd.

Z chęcią odpowiemy na wszelkie pytania Państwa ( prosimy o kontakt poprzez Facebook https://www.facebook.com/events/468282110378517/ lub poprzez adres email: zjezdinfo@gmail.com

tel. do szkoły: 85 682 24 96

НАШ ЛІЦЭЙ 70 ГАДОЎ

IV ZJAZD ABSOLWENTÓW 28–29.09.2019г IV З'ЕЗД ВЫПУСКНІКОЎ

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

**1.** тыдзень перад Вялікаднем б'е, не заб'е = 5 _ 6 _ 7 _ 34 _ 35 _;

**2.** Тамаш, беларускі фалькларыст, філамат, філарэт = 32 _ 2 _ 1 _;

**3.** муж дачкі = 31 _ 30 _ 27 _ 28 _;

**4.** прамая тонкая палка ў... баскійца = 15 _ 19 _ 11 _;

**5.** валакністая тканка раслін у... клубе = 24 _ 33 _ 29 _;

**6.** установа для зберагання помнікаў культуры= 36 _ 37 _ 9 _ 10 _ 3 _;

**7.** прозвішча прадстаўніка магнацкага роду гербу „Газдава" ў... пацерках= 23 _ 22 _ 4 _;

**8.** Дональд, палітык, але не Трамп = 20 _ 16 _ 17 _ 18 _;

**9.** на ёй галава = 12 _ 13 _ 14 _;

**10.** павышанае імкненне да задавальнення цялесных пачуццяў = 26 _ 21 _;

**11.** атрута = 25 _ 8 _. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Дзюба, Друя, Кіш, куцця, ліга, лік, Ушуая.

Рашэнне: **Любі дзіця як душу, а калаці як грушу**.

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

*PL ISSN 0546-1960*
*NR INDEKSU 366714*

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

## 01.09 — 07.09

**(22.03. — 20.04.)** Трымайся плана. Прафесійныя праблемы вырашацца. Але 1-6.09. не злуйся без прычыны. 5-7.09. малое замяшанне ў пачуццях. Калі ты з II дэкады, ад 6.09. можаш вырашыць справу важную для пары. Лепш укусіся ў язык. 1-6.09. можаш рабіць рамонт. Гарачы час у фірме. Асцярожна і спакойна аформі сямейныя справы. Нагоды для добрага заробку ўвесь месяц. 4-6.09. залатаеш дзірку ў бюджэце. Пільнуй дыету.

**(21.04. — 21.05.)** Узрасце твой апетыт на жыццё. 4-9.09. здабудзеш прызнанне і павагу на працы. Але 1-4.09., кіруючыся ахвотай прыбытку, можаш падвергнуцца стратам. Ад 5.09. дабавіцца перцу ў пары. 2-6.09. можаш закахацца па вушы, хаця можа гэта пачацца ад непаразумення ці забаўнай памылкі. 4-6.09. праводзь важныя размовы, лёгка пераканаеш іншых. Не праспі на працы першага тыдня — многа будзе адбывацца і многа можаш здабыць.

**(22.05. — 22.06.)** 2-4.09. пазмагаешся за тое, чаго прагнеш. Не імправізуй, трымайся плана. 6-8.09. лепш не плануй падарожжа. На працы пойдзе ўсё добра, сам нічога не ўскладняй. Не траць часу на перагляданне сацыяльных сетак, на работу над малаважным. Пільнуй дакументаў, адрасоў, асабліва ад 6 (да 10.09.) — можа быць вельмі скрупулёзны кантроль.

**(23.06. — 23.07.)** Жыццё будзе каціцца вельмі хутка. 2-4.09. сам вазьмі справы ў свае рукі, калі хтось табе падабаецца, адразу стартуй! Сям'я і сябры будуць аазісам спакою. 1-3.09. шукаючыя працу могуць атрымаць дзве прапановы — ідзі ў фірму, якая дае большую незалежнасць. 3-5.09. будуць нагоды навучыцца чамусьці новаму. 6-8.09. не ляпні чагосьці нечаканага. Змяні стыль жыцця на здаравейшы.

**(24.07. — 23.08.)** Карыстайся добрай фінансавай паласой, смела рэалізуй амбітныя планы. Будзеш лічыць грошы і рабіць карысныя інвестыцыі. Час не вельмі рамантычны для Ільвоў у пары — зваляцца на вас нейкія рамонты. Мала хто дасць рады вашым перавышаным патрабаванням. 1-6.09. скажаш годзе хатняй руціне і паставіш усё з ног на галаву. На працы маеш усё, што прынясе табе поспех; твая прапанова будзе стрэлам у дзясятку. Фартуна найшырэй усміхнецца ад 6.09. (да 10.09.). Да 14.09. выйдзеш з даўгоў, не бяры толькі новых пазык.

**(24.08. — 23.09.)** Не плануй, а дзейнічай. Мабілізуй сілы, а атрымаеш тое, на чым табе залежыць. Маеш моц і гатоўнасць да рызыкі. 1-6.09 горача ў спальні. Калі твае сэрца вольнае, 2-6.09. гэта час, калі табе нельга сядзець дома. Нават на шпацыры ці пакупках сустрэнеш табе наканаванага! Адразу будзеш ведаць, што гэта тая асоба! На працы дзейнічай хутка, можаш стартаваць з новым бізнесам, падпісаць карысны кантракт. 1-6.09. падымі вышэй перакладзіну, бярыся за новыя выклікі. Будзеш засяроджаны і не зробіш памылкі. Толькі 5-7.09. не спрачайся, а 6-8.09. не пайдзі фальшывым следам.

**(24.09. — 23.10.)** 5-9.09. акажаш маланкавае ўражанне! Цяжка будзе ўвайсці ў фірмавы рытм. Твая краса акажа вялікае ўражанне на другі пол. Але пагаршэнне формы. Засяродзься на самым важным. На працы трэба будзе шмат папраўляць. 5-7.09. на рабоце можаш атрымаць наганяй. Змабілізуйся! 2-6.09 можа намяшацца ў старых парах. Паціхеньку папраўляй форму.

**(24.10. — 22.11.)** Пачнуцца ў тваім жыцці добрыя змены. Менш турбот, больш нагод да радасці і забавы. 2-4.09. сам хутчэй прызнайся ў каханні. Многа радасці ад сустрэч. На працы крэатыўнасць. 1-2.09. могуць цябе выслаць за мяжу. Прыйдзе табе ў галаву, як добра ўкласці капітал у добрым банку (у другой палове верасня чакаюць цябе большыя выдаткі).

**(23.11. — 22.12.)** Паставіш на кар'еру і можаш зайсці высока. Будзеш дынамічны, смелы і рашучы. Час зверыфікуе твой стыль жыцця. 4-9.09. добра заінвестуеш грошы, час і энергію. З 6.09. не рабі бяздумных дэкларацый. На працы выкарыстай прыліў ініцыятывы і скажы шэфу, што ты хацеў бы рабіць і на якіх умовах. Не еж тлустага.

**(23.12. — 20.01.)** Пачуццёвая стабілізацыя. Рэалізм. Дацэніш спакой і шчасце. Пільнуйся, што кажаш. Новыя асобы ў фірме, падзяліся з імі сваім досведам. 4-6.09. інвестуй у сябе, папраў веданне моў. 4-6.09. твае веды і старыя ўмеласці ў фірме будуць незаменнымі! 1-6.09. купі карнет у трэнажорную залу — не змарнуецца. З 6.09. вывядзеш фірму з падваротнай сітуацыі. Не ўпусці важнага з-пад носа.

**(21.01. — 19.02.)** Аформіш самае важнае. 1-2.09. важныя весткі. 4-9.09. не разгубішся і дасягнеш мэту. Шчасце зменлівае ў першай палове верасня; упарадкуеш свае справы. Слухай другога боку. Амбіцыі на працы зрэалізуеш у другой палове месяца; не думай аб змене работы. 1-4.09. большыя выдаткі на здароўе. Форма слабейшая, вельмі пільнуйся. 1-4.09. пазбудзешся старых нямогласцей, але аднаўленне арганізма можа працягнуцца.

**(20.02. — 21.03.)** Рэалізуй планы, якія патрабуюць немалой адвагі і адчаю. Не траць часу на тое, што кончылася, страціла сэнс. 1-6.09. выкінеш са свайго жыцця ўсе таксічныя адносіны. З 5.09. (да 9.09.) удасца табе давесці да згоды ў сям'і. 2-4.09. пераможаш канкурэнцыю. Нямогласці мінуць, нават састарэлыя. 3-5.09. — удалая сямейная ўрачыстасць. З 4 (да 9.09.) удасца табе з партнёрам збудаваць штосьці трывалае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Гадавіна яўрэйскага зрыву

**16 жніўня Беласток адзначыў 76-ю гадавіну паўстання ў мясцовым гета. Паўстанне выбухла калі гітлераўцы прыступілі да ліквідацыі насельніцтва адведзенага яўрэям квартала ў цэнтры Беластока.**

Беласток цягам многіх дзесяцігоддзяў быў буйным цэнтрам яўрэйскай дыяспары. На тэрыторыі цяперашняга Падляшскага ваяводства яўрэі з'явіліся ўжо ў XV стагоддзі, спярша ў Бельску, затым у Тыкоціне. Захаваныя дакументы паведамляюць, што ў Беластоку жылі яны ўжо ў 1658 годзе. Пазней, уладальнікі Беластока Браніцкія заахвочвалі яўрэяў сяліцца сюды, фундуючы ім, м.інш. сінагогу. Скора Беласток стаў вядучым яўрэйскім цэнтрам на Падляшшы — у канцы XVIII стагоддзя пражывала тут амаль дзве тысячы яўрэяў, складаючы амаль палову насельніцтва горада. А ў пачатку таго ж стагоддзя быў узведзены першы тут яўрэйскі малітоўны дом па сённяшняй вуліцы Суражскай. У 1771 годзе побач ратушы працавалі 46 крамаў, з якіх 44 былі ў руках яўрэяў, а толькі дзве належалі нямецкаму купцу Шульцу.



■ Астатак купала Вялікай сінагогі па вуліцы Суражскай




■ Фрагмент абеліска на плошчы Тэненбаўма



■ Рафал Рудніцкі і Элія Макліс перад памятнай таблічай Іцхоку Мальмеду

Чарговае, XIX стагоддзе, прынесла не толькі замену дзяржаўнасці з польскай на расійскую; прынесла яно запар з гэтай зменай і новы штуршок для сялення яўрэяў менавіта ў Беластоку. У выніку вызначэння пецярбургскімі ўладамі г.зв. зон яўрэйскага пасялення на заходніх рубяжах імперыі, у Беласток перасяляецца шмат жыдоўскіх сем'яў з тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, м.інш. з Берасця і Вільні. Устанаўленне таможнай граніцы паміж тагачасным Каралеўствам Польскім і Расійскай Імперыяй, у якой апынуўся Беласток, стварыла вельмі карысныя ўмовы для развіцця прадпрымальніцтва ў Беластоку, якое было нацэлена на расійскія рынкі. У скорым часе пасля Лістападаўскага паўстання ў Беласток перасяляюцца фабрыканты з Лодзі і Згежа разам са сваімі тэкстыльнымі мануфактурамі. У 1857 годзе ў Беластоку пражывала звыш дзевяці з паловай тысяч яўрэяў, складаючы дзве трэці насельніцтва горада; сорак гадоў пазней пражывала ў Беластоку ўжо амаль сорак дзве тысячы яўрэяў. У горадзе ўзнікалі шматлікія не толькі гаспадарчыя аб'екты, але таксама яўрэйскія грамадскія і культурныя ўстановы: школы, шпіталі, прытулкі. У 1913 годзе на месцы старога малітоўнага дома па вуліцы Суражскай была ўзведзена велічная сінагога, названая Вялікай, якую завяршаў высокі купал з іглцай.

Грамадская ангажаванасць яўрэяў не была даспадобы тагачасным уладам, якія прымалі ў адносінах да іх рэпрэсіўныя меры. У 1906 годзе адбываецца тут пагром жыдоўскага насельніцтва, у выніку якога гіне семдзесят чалавек. Узмацняецца эміграцыя беластоцкіх яўрэяў так у Амерыку, як і ў Палесціну. Аднак на іх месца прыбываюць сюды новыя жыдоўскія пасяленцы. Яўрэі жылі галоўным чынам у цэнтры горада па вуліцах Суражскай, Мікалаеўскай (цяпер Сянкевіча), Купецкай (цяпер Мальмеда), Жыдоўскай (цяпер Бялуўны), Біржавай (цяпер Спульдзельчай), Млыновай, Грунвальдскай, Кіеўскай, Цешынскай...

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны ў Беластоку пражывала амаль сорак тысяч яўрэяў, складаючы больш чым палову насельніцтва горада. У міжваенны час зноў шмат беластоцкіх яўрэяў пакінула горад, адпраўляючыся ў Паўночную і Паўднёвую Амерыкі ды Палесціну; іх адсотак упаў да 43% у 1936 годзе. Набліжалася Другая сусветная вайна...

15 верасня 1939 года Беласток занялі немцы, а пасля тыдня іх месца занялі саветы. 27 верасня Беласток быў далучаны да БССР. Яўрэйскія грамадскія, палітычныя і адукацыйныя арганізацыі апынуліся па-за законам. Шмат прадпрымальнікаў паехала на „белыя мядзведзі". Але ў той час у Беласток хлынула хваля жыдоўскіх уцекачоў з акупаванай немцамі тэрыторыі Польшчы. Мяркуецца, што ў 1940 годзе ў Беластоку пражывала пад шэсцьдзясят тысяч яўрэяў. Неўзабаве падзеі атрымаюць новую дынаміку...

Вікіпедыя: „Немцы занялі Беласток 27 чэрвеня 1941 года і заставаліся ў ім да 27 ліпеня 1944 года. Але горад быў акружаны ўжо 22 чэрвеня 1941 года. Таму толькі нязначнай колькасці яўрэяў, не больш за 200-300 чалавек удалося эвакуявацца з Беластока. 26 ліпеня 1941 года ў горадзе было створана гета, у якім заключана ад 40 да 60 тысяч яўрэяў з горада і наваколля. Першыя парасткі руху супраціву ў Беластоцкім гета былі створаны ў лістападзе 1941 года на нарадзе камуністаў, левых сіяністаў і бундаўцаў у падвале бальніцы гета. Была прынята праграма работы, створаны Антыфашысцкі камітэт Беластока. Але ў снежні гестапа, атрымаўшы інфармацыю з невядомай крыніцы, арыштавала і расстраляла чацвярых падпольшчыкаў. У пачатку 1942 года ў гета з'яўляюцца яшчэ некалькі груп супраціву.

У адрозненне ад многіх іншых паўстанняў, у Беластоку сілы супраціву падтрымліваў кіраўнік юдэнрата Эфраім Бараш. (...) Першыя ўзброеныя сутыкненні ў гета былі падчас акцыі дэпартацыі 5-12 лютага 1943 года. «Блок А» пачаў спробу абароны насельніцтва і арганізацыі адпору, атакаваўшы салдат і будынкі на тэрыторыі гета, якія належалі немцам. «Блок У» у лютаўскіх баях удзелу не прыняў. У ходзе баёў было забітых каля 30 нямецкіх салдат і ўкраінскіх паліцэйскіх. Гэтая спроба ўзброенага супраціўлення прынесла вялікія страты. Загінулі ад 800 да 2 тысяч чалавек, а 10 тысяч былі вывезены з Фабрычнага (Палескага) вакзала ў Трэблінку. Пасля лютаўскіх баёў падпольшчыкі пачалі разумець, што падзел сіл супраціўлення на два блокі ідзе насуперак з інтарэсамі справы. У пачатку жніўня 1943 года немцы прынялі рашэнне аб канчатковай ліквідацыі Беластоцкага гета. У жніўні 1943 года ў гета засталося толькі каля 30 тысяч яўрэяў. У ноч з 15 на 16 жніўня гета было акружана трыма кольцамі нямецкіх войскаў, якія складаліся з падраздзяленняў нямецкай жандармерыі, трох спецыяльных паліцэйскіх батальёнаў, два з якіх былі ўкраінскімі, частак СС і падраздзяленняў вермахта. Войскам былі нададзены палявая артылерыя, танкі, бранявікі і самалёты. У ноч на 16 жніўня нямецкія войскі занялі фабрыкі гета, раніцай 16 жніўня ў гета былі вывешаны аб'явы, у якіх насельніцтву загадвалі сабрацца ў згаданых месцах, нібыта для перасялення ў Люблін. У паўстанні ў Беластоцкім гета ўдзельнічала ўсяго каля 300 чалавек. З-за таго, што ўзбраенне паўстанцаў было бедным, яго магло хапіць толькі для такой колькасці байцоў. Каля 150 паўстанцаў здолелі прарвацца за межы гета, у Кнышынскую пушчу, дзе яны стварылі партызанскі атрад «Кадзіма» (Наперад). Гэты атрад і іншыя яўрэйскія групы і атрады ў красавіку 1944 года ўліліся ў савецкую партызанскую брыгаду імя К. Каліноўскага. Пасля падаўлення паўстання ацалелыя яўрэі былі высланы ў Трэблінку (10 транспартаў), Асвенцім (2 транспарты), 12 тысяч дзяцей былі высланы ў лагер у Тэрэзіне (Чэхія), дзе ўтрымліваліся 6 тыдняў, пакуль ішлі перамовы аб абмене яўрэйскіх дзяцей на немцаў, паланёных англічанамі. Пасля правалу перамоў 5 кастрычніка 1943 года 1196 дзяцей і 53 суправаджаючых было перавезеных у Асвенцім, дзе праз 2 дні знішчаныя ў газавай камеры. Тыя габрэі, што засталіся ў Беластоку, у колькасці 1-2 тысячы чалавек былі перасялены ў «малое гета», а затым, 8 верасня 1943 года частка перакладзеная ў працоўны лагер у Панятовай (Любліншчына), а астатнія ў Белжац, Асвенцім і Майданэк. Частка з пераведзеных у Панятову загінула падчас акцыі «Erntefest» 3 лістапада 1943 года, калі немцы знішчылі каля 42 тысяч яўрэяў. У цэлым, толькі каля двухсот яўрэяў Беластока выжылі ў лагерах, і яшчэ некалькі дзясяткаў — хаваючыся ў горадзе па-за межамі гета. Таксама выратаваліся 60 яўрэяў, якія далучыліся да партызан. Беласток быў вызвалены Чырвонай Арміяй у жніўні 1944 года. Пасля вызвалення БССР Чырвонай Арміяй невялікая частка яўрэйскага насельніцтва (каля 1085) вярнулася ў Беласток. У 1950-60-я гады практычна ўсе яўрэі Беластока рэпатрыяваліся ў Ізраіль ці выехалі ў ЗША, Швецыю і іншыя краіны. У пачатку 2000-х гадоў у Беластоку жыло ўсяго некалькі яўрэяў".

Партал Штэтл: „16 sierpnia 1945 r., w drugą rocznicę likwidacji getta, dzięki inicjatywie ocalonych białostoczan na cmentarzu przy ul. Żabiej wystawiono kamienny obelisk z napisem:

„Pamięci 60 000 żydowskich Braci z getta białostockiego zamordowanych przez Niemców — poświęca resztka pozostałych przy życiu Żydów. Naród Izraela żyje".

16 жніўня 2019 года былі ўскладзены вянкі на месцы Вялікай сінагогі, перад памятнай таблічай у гонар Іцхока Мальмеда і перад помнікам-маўзалеем Паўстання ў беластоцкім гета на плошчы Мардэхая Тэненбаўма. Былі вянкі ад Гарадской управы Беластока, ад Управы ізраільскага горада Егуд-Манасон, часткай якога з'яўляецца Кірыят-Беласток, заснаваны выхадцамі з нашага горада. Былі вянкі ад жыхароў гэтага горада, ад дэлегацыі амерыканскіх яўрэяў, ад дыпламатычных прадстаўніцтваў Германіі і Беларусі, ад шматлікіх грамадскіх арганізацыі і ад прыватных асоб. На плошчы Тэненбаўма, кіраўніка паўстання ў беластоцкім гета, беластоцкі ваявода Багдан Пашкоўскі зачытаў ліст ад прэм'ер-міністра Рэчы Паспалітай Матэвуша Маравецкага. Віцэ-прэзідэнт Беластока Рафал Рудніцкі сказаў прамову на іўрыце і па-польску. Прамаўляла мэр горада Егуд-Манасон Элія Макліс, выступілі і іншыя прамоўцы. Была ганаровая рота з беластоцкай 18. Разведачнай брыгады.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 35